ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

28 ЛІПЕНЯ 1995 г. № 30 (3802) Кошт 2 000 руб.

## ЛІМАЎСКІ "ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ"

***"Дваццаць гадоў назад, у 1965 годзе, выйшаў ілюстраваны фотаздымкамі зборнік, які называўся "Дзень паэзіі". Гэты зборнік стаў традыцыйным. Ён па пэўных прычынах не выходзіў толькі ў 1968 і 1970 гадах", — так пісаў народны паэт Беларусі Максім Танк у прадмове, якой адкрываўся чарговы "Дзень паэзіі", што быў прысвечаны 20-годдзю гэтага выдання.***

***Сёлета ў "Дня паэзіі" чарговы юбілей — 30-годдзе. Але, на жаль, яго, здаецца, ніхто не адзначае. Ды і сам зборнік ужо другі год не выходзіць і нават не значыцца ў планах выдавецтва "Мастацкая літаратура". Не той, пэўна, час, каб траціць сродкі на такое працаёмкае выданне, як "Дзень паэзіі", хаця б выпусціць тыя ж паэтычныя зборнікі, рукапісы якіх ляжаць у шафах выдавецтва.***

***У нашым штотыднёвіку таксама не пустуюць шуфляды з паэтычнымі творамі. Каб іх крыху разгрузіць і адзначыць юбілей зборніка "Дзень паэзіі", мы вырашылі выпусціць наш, лімаўскі "Дзень паэзіі". На жаль, у ім змаглі змясціць толькі частку тых твораў, якія сабраліся ў шуфлядах аддзела літаратуры.***

***Аддаючы гэты нумар "ЛіМа" напалову паэзіі, спадзяёмся, што і самі паэты, і супрацоўнікі выдавецтва "Мастацкая літаратура" ўспомняць пра сваё выданне, выхад якога прыносіў радасць не толькі самім творцам, але і шматлікім чытачам.***

***Своеасаблівы "Дзень паэзіі" на старонках "ЛіМа", магчыма, стане традыцыйным, але гэта пакуль што толькі ў нашых планах.***

**Чытайце яго на стар. 5—12**



# АГАТА, ДАЧКА АГАТЫ...

Днямі купалаўцы ладзілі збор трупы. Сярод вітанняў, расповядаў пра рыбалку ды спадзяванняў на новы сезон нервавала-нагадвалася яшчэ і яшчэ раз: сёлетняе купалаўскае тэатральнае сямідзесяціпяціг одддзе. Між тым, да слынных угодкаў мусілі былі б дадацца яшчэ адны, адметныя ў сваёй сціпласці: у 1945 годзе купалаўскі рэжысёр Еўсцігней Мiровіч набраў студыю! Студыю, адкуль з'явілася мастацтва (проста — у чым былі, у чым стаялі, з чым навучыліся) Я. Кавалёва, У. Кудрэвіч, Г. Уладамірская, Л. Чыжэўская, М. Зінковіч, І. Сіповіч, В. Краўчанка, Т. Кін-Камінскі, М. Лапідус і іншыя, іншыя, іншыя...

Алена Рынковіч была ў тым самым выпуску. Мне здалося, што яе сцэнічны і жыццёвы лёс міжволі стаўся ўвасабленнем скрутнага акцёрскага шляху ў савецкім мастацтве; у тым самым мастацтве, дзе партыя была адзінаю з народам, а радзіма — найвялікшаю маці ("Радзіма большая маці, чым я!" — гучала з вуснаў адной гераіні). Скруты лёсу, жыццёвага і мастацкага, Алене Рынковіч забяспечыла права — права чалавечага выбару, якое найчасцей яна пакідала за сабою.

Апошні спектакль сезона, які я бачыла з яе ўдзелам, — "Паўлінка" Янкі Купалы, у якой, дарэчы, актрыса выйшла ўпершыню таксама пяцьдзесят гадоў таму (а семдзесят пяць таму ў ролі той самай Агаты, знанай "тудэма-сюдэма", зазнала поспех Вера Тарасік, маці спадарыні Алены — яшчэ ў спектаклі Фларыяна Ждановіча!). "Паўлінка" цяперашняя, у варыянце рэжысёра Льва Літвінава, здаецца, вывучана гледачамі на памяць, але ідуць і ідуць — ці то пачцівасць засведчыць, ці то ўрок зацвердзіць...На тым апошнім спектаклі сезона Агата пачувалася выдатна; актрыса Рынковіч у грымёрцы, як цяпер памятаю, сказала пра здароўе, якое губляеш усё жыццё, а потым, маўляў, як дурань спадзяешся, што табе яго вернуць за колькі месяцаў у лякарні...

За колькі летніх месяцаў перажыўся чарговы скрут "з вяртаннем здароўя", — менавіта так жартавала сама актрыса. "Буду, буду працаваць, не магу ж крытыкаў без работы пакінуць!" — запэўніла мяне канчаткова. І дадала вельмі заклапочана: "Шкада, што наш студыйны юбілей няма як адзначыць... Не да нас. Не да юбілеяў". Вы б знайшлі, чым запярэчыць у адказ?

Купалаўскі тэатр даўно не набіраў студый, аддаючы першынства тэатральна-мастацкаму інстытуту, цяпер — Акадэміі мастацтваў. Толькі вось усю трупу выкладаць не запросіш. Добра, калі яе ўдаецца хоць сабраць поўным складам...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

***Калі ў Беларусі пасля ўтварэння Народнага фронту ўголас загаварылі пра незалежнасць, з боку наменклатурных апанентаў чулася пытанне: "Независимость — от кого?" Адказам было: "Ад вас". Незалежнасць — гэта дэмакратыя і дабрабыт. Статус "рэспублікі" ў складзе імперыі — дыктатура і жабрацтва.***

***Хто сёння перашкаджае Беларусі быць незалежнай? Імперская палітыка Масквы альбо абыякавасць Захаду? У нейкай ступені — так, але найперш — "саўковая" ментальнасць большасці насельніцтва краіны, спадзяванні на "добрага дзядзьку" і разумнага "бацьку". З гэтым насельніцтвам, маючы ўладу, можна рабіць (пакуль што) што заўгодна. Не будзе дзяржава незалежнай, пакуль незалежная ад народа ўлада.***

## ПРЭМ'ЕРА ТЫДНЯ

26 і 28 ліпеня ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета — прэм'ера новага балета Валянціна Елізар'ева на музыку Андрэя Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда").

## НАВАСЕЛЛЕ ТЫДНЯ

Справілі "ўлазіны" пасольствы Італьянскай Рэспублікі і Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі. Абодва прадстаўніцтвы размясціліся пад адным дахам у будынку на вуліцы К. Маркса. Раней італьянцы арандавалі памяшканне ў гатэлі, а брытанцаў часова прытулілі ў пасольстве Нямеччыны.

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

"Хвароба прэзідэнта... Ці абернецца яна чарговым сур'ёзным "недамаганнем" Расіі?"
(*"Литературная газета", N 29*).

## ВОБЫСК ТЫДНЯ

Газета "Народная Воля" паведаміла, што днямі на кватэры прэм'ер-міністра Беларусі сп. Чыгіра супрацоўнікі МУС РБ зрабілі вобыск. І не толькі ў кватэры, а і ў гаражы, які здымае малодшы сын прэм'ера. Падставай для гэтай, прама скажам, дзіўнай акцыі праваахоўных органаў было, згодна афіцыйнаму тлумачэнню, падазрэнне сына прэм'ера ў махінацыях, звязаных з продажам крадзеных машын. Толькі на падставе падазрэння? Таму законнасць акцыі МУС падаецца вельмі спрэчнай. Але чаму здзіўляцца ў нашай дзяржаве пасля таго, як у Авальнай зале парламента збівалі і гвалтам "эвакуіравалі" дэпутатаў ад апазіцыі?!

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

"Народная Воля" (N 3) друкуе нататкі Івана Макаловіча пад назвай "Чаму чырвона-зялёныя сцягі толькі ў Буркіна-Фасо, Беніне, Бангладэш і Беларусі? Хіба месца нашай краіне ў гэтай кампаніі?". Аўтар паведамляе, што дзве трэці сцягоў вядучых еўрапейскіх краін (можна дадаць і краіны Паўночнай Амерыкі) складаюцца са спалучэнняў чырвонага і белага колераў. Менавіта чырвоны і белы — аснова сцягоў усіх славянскіх народаў. І.Макаловіч раіць не спяшацца мяняць дзяржаўную сімволіку (бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню"), а абмеркаваць гэтае пытанне ў камісіях Вярхоўнага Савета з удзелам спецыялістаў, у тым ліку і эканамістаў.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Беларусь наведаў Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. У праграме візіту — наведанне Мінскай, Гарадзенскай і Берасцейскай епархій. Патрыярх меў сустрэчу з прэзідэнтам Беларусі сп. Лукашэнкам. Прэзідэнт, па ініцыятыве якога дзяржаўны герб з хрысціянскім крыжам быў заменены на нешта з чырвонай зоркай, распавядаў Патрыярху пра сваю павагу да рэлігіі.

## ПРЫГАЖУНЯ ТЫДНЯ

У Віцебску прайшоў міжнародны конкурс прыгажосці "Міс Славянка-95". Сярод шаснаццаці ўдзельніц — пераможцаў нацыянальных конкурсаў — лепшай прызнана прадстаўніца Беларусі Алена Кудрашова. Беларускі таксама першыя ў намінацыях "Міс Фота" і "Міс Зачараванне".

## ВЯНЧАННЕ ТЫДНЯ

Лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк абвянчаўся 23 ліпеня ў Магілёўскім касцёле св. Станіслава з Галінай Вашчанка, якая займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў адным з чарнобыльскіх фондаў.

## НАБЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі — свой самалёт. Палётныя выпрабаванні ТУ-154М вытворчасці Самарскага АТ "Авіякор" ужо распачаліся. Аб цане лайнера не паведамляецца. Цікава з гэтай нагоды нагадаць зусім нядаўняе паведамленне радыё і друку аб тым, што новы прэзідэнт Францыі Жак Шырак адмовіўся ад прэзідэнцкага самалёта. Што ж, мы, пэўна, багацейшыя за Францыю...

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Па дадзеных Міністэрства адукацыі, з 1 верасня г. г., як вынік рэалізацыі "рэферэндуму", у нашай краіне на 80 працэнтаў адбудзецца адток першакласнікаў з беларускай на рускую сістэму навучання.



*Меркаванне*

# СПАЛОХ МІНУЎСЯ ХУТКА...

Невясёлыя думкі прыходзяць у галаву ў гэты святы Дзень нашай незалежнасці.

Сталася так, што ў палітычным лексіконе нашага ўсходняга суседа словы суверэннасць, незалежнасць, "самастойнасць" набылі негатыўнае, амаль знішчальнае адценне. А між тым яшчэ нядаўна яны мелі іншы, паважаны, нават сакральны сэнс і не знікалі са старонак бальшавіцкай прэсы. Праўда, тады яны прычыняліся да народаў далёкіх краін, якія "вялі самаадданую барацьбу супраць каланіяльных захопнікаў". Іншая справа цяпер, калі той самай свабоды і незалежнасці захацелі народы ўласнай савецкай імперыі. Шмат якія з ліку цяперашніх расійскіх дэмакратаў (не кажучы ўжо пра камуністаў-ленінцаў) паспешліва перакваліфікаваліся ў архаічных патрыётаў-дзяржаўнікаў і як за галоўны аргумент тае метамарфозы ўхапіліся за адзін з двух пастулатаў вядомай дэкларацыі — аб непарушнасці тэрыторый. Другі ж, не меней (а, можа, і болей важны — аб праве нацый на самавызначэнне — пакінулі без увагі, нібы там яго і не было ніколі.

Мабыць, з біблейскіх часоў вядома, што галоўныя ісціны людскога існавання простыя і зразумелыя — як хлеб і вада, жыццё і смерць. Гэта кніжнікі і фарысеі прывыклі ўскладняць і заблытваць іх дзеля ўласнай карысці. Старанна заблытваецца цяпер і элементарны сэнс суверэннасці і незалежнасці. Нядаўняе памкненне нацый і народаў да вызвалення ад шматгадовай імперскай залежнасці адбылося не з прычыны якога-небудзь недагляду ці чыёй злой волі, як гэта нам тлумачаць імперскія апалагеты, а на падставе сумнага шматвекавога вопыту паднявольнага існавання ў складзе вядомай імперыі. У Белавежы быў удала скарыстаны рэдкі момант, які нячаста здараецца ў гісторыі імперый, і гэтая імперыя рухнула. Без крыві і вялікіх выпрабаванняў, без жахаў унутранай грамадзянскай вайны, нібы ў казцы са шчаслівым канцом. Здаецца, ужо гэтая акалічнасць павінна бы выклікаць задавальненне ўсіх, у тым ліку і расійцаў, якія нарэшце вызваліліся ад прыкрай патрэбы (як яны цяпер кажуць) карміць і развіваць няўдзячныя маларазвітыя нацыі. Задавальнення, аднак, не атрымалася, шматабяцаючая падзея прынесла ці не цалкам негатыўны вынік, і бадай усе яе ўдзельнікі плачуць горкімі слязьмі. Але чаму так? Ці не ў выніку ўсё той жа раптоўнасці, нечаканасці, паспешлівасці, якія прыйшлі ў галовы кіраўнікоў трох братніх рэспублік, але пакінулі абыякавымі іхнія народы? На самай справе, штосьці ў Белавежы было не ўлічана, штосьці зроблена не так, як належала. 70 год нявольніцкага існавання ў рэжыме сацыялістычнай казармы ўшчэнт дэфармавалі масавую свядомасць, выпрацавалі адмысловую людскую ментальнасць — сацыяльных утрыманцаў, якія бязвольна чакаюць усё неабходнае для жыцця (і для шчасця таксама) калі не ад бога, дык ад начальства — ЦК, саўміна, дырэктара. Зноў жа, ці можна не ўлічваць спантанны, а то і добра арганізаваны сабатаж камуністычнага авангарду (ці як цяпер кажуць, наменклатуры), які, хутка акрыяўшы ад пасляпутчаўскага спалоху, уцяміў, што "паляванне на ведзьмаў" не будзе, а прыхватызатарская эканоміка нават лепш за партнаменклатурную прывілеяванасць. Спалох ад путчу на Беларусі стаўся, можа, нават мацнейшы, чым дзе яшчэ, бо ў нас з нядаўняга часу непрадказальным страшыдлам замаячылі "Курапаты". Але ён і мінуўся хутчэй, калі аказалася, што БНФ марна палохае люстрацыяй, на якую ў яго не хопіць высілак, бо ўся кадэбістаўская картатэка прадбачліва адпраўлена на Лубянку. Гэтая акалічнасць і вызначыла палітычны выбар беларускага кіраўніцтва — не Захад, а Усход. Самая вялікая "пагроза" суверэнізацыі мінула, нават не прагрымеўшы над Беларуссю.

Малаважна, што эканоміка неўзабаве апынулася ў руінах, на труху ператварыліся "зайчыкі", палітыка рэформ сканала, ледзьве пачаўшыся. Затое спосабам шокавага рэферэндуму ды хітраванскага выбарчага закону з палітычнай арэны была адхілена апазіцыя, а перад тым з'явіўся "ўсенародна абраны" прэзідэнт з яго загадкавай, фантомнай ідэяй Славянскага Саюза (як "Славянскага базару", "Славянскага сабору"). Малаважна, што пра тую ідэю няма пэўнага ўяўлення ў асноўнай масы славянства, якое дагэтуль ніяк не выхаркае з крывёю папярэднюю, камуністычную ідэю. Затое хапае энтузіязму ў яе ініцыятара. Ну а суверэннасць і незалежнасць? Яе збольшага успамінаюць у масах як недарэчны казус, што здарыўся па віне трох белавежскіх "зуброў", і патрабуюць трыбуналу над імі. Пасля нядаўніх недарэчных выбараў пра дэмакратаў ужо не гавораць, здаецца, у Беларусі іх ужо перасталі і заўважаць.

З дапамогай АМАПу ліквідавана не толькі парламенцкая апазіцыя, але і сам недалужны парламент, замест якога ў краіне дзейнічае нечуваны дагэтуль наватвор — "прэзідэнцкая вертыкаль". Эканоміка паралізаваная, курс на доўгачаканую інтэграцыю з Расіяй завісае ў паветры, яно і вядома: каму патрэбна сястра-жабрачка? Нават калі яна гатовая да паслуг і просіць на пастой і пракорм чужое войска, але дзе гарантыя таго, што тое войска сапраўды будзе накормлена? Зноў жа, вучоныя-прафесары не перастаюць пераконваць, што поўнага суверэнітэту не бывае, што незалежнасць — справа жахлівага ЦРУ, агенты якога кішаць у краіне. Праўда, выкарчаваць тых агентаў, мабыць, нялёгкая справа, затое ва ўсіх на вачах фінансавая дзейнасць Фонду Сораса. Але, як трапна заўважыла нядаўна радыё "Свабода", навошта нам амерыканскія мільёны, калі іх немагчыма ўкрасці? Значыцца, вон з Беларусі, пан Сорас, якому тут жа аператыўна створаны рэжым найбольшага неспрыяння.

Заткнуты рот дэмакратычнай прэсе, развалена навука, аганізуе нацыянальная культура. Мінскія ўлады забараняюць народнае шэсце з выпадку Дня незалежнасці. Затое над краінай не сціхае гулкае водгулле ад камерцыйна-палітызаванага шоу ў Віцебску і свінцовай сілаю наліваецца аўтарытарная дыктатура.

З чым і вітаю цябе, Беларусь, у светлы дзень твае "незалежнасці".

**Васіль БЫКАЎ**

# НА САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ПЛАТФОРМЕ

25 ліпеня ў памяшканні Дома-музея I з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі кіраўнікі трох партый сацыял-дэмакратычнай накіраванасці падпісалі Дэкларацыю аб стварэнні і прынцыпах Сацыял-дэмакратычнага саюза. За Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду дакументы падпісаў Мікалай Статкевіч, за Партыю ўсебеларускага адзінства і згоды — Дзмітрый Булахаў, за Партыю згоды — Леанід Сечка.

Згодна з папярэдняй дамоўленасцю чакалася, што ў Сацыял-дэмакратычным саюзе возьме ўдзел і Партыя здаровага сэнсу. Аднак яе прадстаўнік выступіў на падпісанні з заявай, што ПЗС выступае за больш шырокі саюз — усіх дэмакратычных сіл, таму ў гэтым аб'яднанні не будзе ўдзельнічаць. Логіка — дзіўная, але, як кажуць, вольнаму — воля. Дарэчы, Сацыял-дэмакратычны саюз адкрыты для ўсіх, хто падзяляе прынцыпы, выкладзеныя ў Дэкларацыі.

Некалькі камуністаў спрабавалі сарваць цырымонію. Давялося вывесці іх з памяшкання. Мне падалося, што правакатары прыйшлі ў загадзя парванай вопратцы і з загадзя падрыхтаванымі "пабоямі" — значыць, чакалі вэрхалу ў якой-небудзь "Мы и время".

Пасля падпісання дакументаў удзельнікі цырымоніі выступілі перад прэсай з кароткімі прамовамі з ганка дома-музея. Мелі слова і госці. Сярод іх — сп. Таразевіч.

Вёў рэй сп. Статкевіч. Ён прыгадаў, што камунізм — пачварнае дзіця сацыял-дэмакратыі — адыходзіць у нябыт і зараз самы час вярнуцца да пачатковай, незаплямленай ідэі, якая, дарэчы, знайшла ўвасабленне ў шэрагу заможных і сацыяльна-стабільных краін Заходняй Еўропы. Сацыял-дэмакраты — за сацыяльна арыентаваную дэмакратыю, за рынкавую эканоміку і дабрабыт народа, за ўмацаванне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. На гэтай аснове яны знойдуць паразуменне з іншымі патрыятычнымі партыямі і рухамі нашай Краіны.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

*Надзённае*

## КАНЧАТКІ

**Індустрыялізацыя,**
**калектывізацыя**
**Нас бралі калісь пад ружжо.**
**А сёння —**
**Інфляцыя, ваўчэрызацыя, —**
**Канчаткі вядомыя ўжо.**

**Канчаткі вядомыя —**
**Новыя прызмы:**
**Выкідвае конікі час!**
**Згадайма:**
**Яны, бы і ўсе тыя "ізмы",**
**Як палі, ўбіваліся ў нас.**

**Хто думаў,**
**Што ўдосталь**
**праз іх пабядуем**
**І мару звязём на пагост?!**
**А верылі ж слепа:**
**На іх пабудуем**
**У светлую будучынь мост.**

**Ды нешта канчаткі**
**Не ў дружбе з дастаткам —**
**Мы голыя,**
**Як лузанцы.**
**Зноў новыя словы —**
**Старыя канчаткі...**
**Няўжо хутка будуць канцы?**

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

З нагоды

# ПРЫЖЫЛОСЯ!

Гэты Дзень Незалежнасці краіна сустрэла ў незвычайных варнуках, справакаваных "рэферэндумам". У грамадстве ці не ўпершыню ўзнікла пэўная напружанасць. І яе першымі ахвярамі, так бы мовіць, сталі, як заўжды, самыя безабаронныя — нашы дзеці. Толькі-толькі распачалася дэрусіфікацыя сістэмы выхавання і адукацыі; толькі-толькі намеціўся паварот да нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцяў — і зноў камунізм! Гэтым разам — у афарбоўцы нейкай містычнай "славянскай еднасці" на чале з Масквою. Гэта выпрабаванне і для псіхікі дарослага, што ж казаць пра дзяцей...

Ужо чую пярэчанні: "А ці не была гвалтам над грамадскай свядомасцю беларусізацыя?" Прыблізна такое пытанне задае небезвядомы аўтар "Свободных новостей" (N 28, 14—21 ліпеня) С. Арцюшэнка. Ён ставіць у заслугу А. Лукашэнку тое, што "спыніў працэс расслаення беларускага грамадства на падставе прынцыпу "двухабшчыннасці". Сімптомы пачатку гэтага працэсу былі ў наяўнасці: нацыянальна-дэмакратычнае цэнзураванне матэрыялаў у вядучай парламенцкай газеце 1991—1994 гг.; шальмаванне рускай мовы і ментальнасці рускіх; ускосная дыскрымінацыя этнічных рускіх пры вылучэнні на вышэйшыя адміністрацыйныя пасады, што існавала апошнія гады (выключэнне рабілася для прыхільнікаў нацыянальнай ідэі); прыняццё не прадыктаванага сітуацыяй заканадаўства па рэгуляванні стасункаў у міжэтнічнай сферы і г. д.

Абражаныя цалкам цывілізаваным тэрмінам "нацменшасць", прадстаўнікі другой па колькасці этнічнай групы, рускія, пачалі аб'ядноўвацца ў розныя групоўкі і партыі. Дзеянне нараджае супрацьдзеянне. Нацыянал-дэмакратам варта было б грунтоўна вывучыць рысы ментальнасці гэтай этнічнай групы, перш чым "наязджаць" на яе правы".

Даруйце за доўгую цытату, але яе варта было прывесці, каб не сказіць думкі сп. Арцюшэнкі. Калі б гэта было надрукавана ў газеце "Мы и время", у "Советской Белоруссии" альбо ў газеце мясцовых жырыноўцаў, публікацыю можна было праігнараваць. Але гэта перадавіца "Свободных новостей" — газеты, чый дэмакратызм, здаецца, не даводзіцца падвяргаць сумненню. Дык, можа, сп. Арцюшэнка мае рацыю? Паспрабуем разабрацца.

Дастаткова пагартаць падшыўкі "Народнай газеты" (а гутарка ў "СН" ідзе пра яе), каб пераканацца, што на старонках парламенцкай газеты за названы перыяд (1991—1994) і пазней і блізка не было "нацыянальна-дэмакратычнага цэнзуравання". Рэдакцыя паставіла сябе над палітычнай барацьбой, у ёй пэўны час мог выступіць кожны народны дэпутат, незалежна ад партыйнай прыналежнасці. Потым цэнзура, праўда, з'явілася. Тады, калі сп. Кебіч вырашыў (як сёння сп. Лукашэнка) кіраваць сродкамі масавай інфармацыі, газетамі ў прыватнасці. Але ж гэту цэнзуру нельга назваць "нацыянальна-дэмакратычнай". Наадварот: праблемы з публікацыямі з таго моманту з'явіліся ў Зянона Пазняка і ягоных паплечнікаў, у іншых дэмакратаў.

Наконт дыскрымінацыі этнічных рускіх... Калі зазірнуць у "пятую графу" кіраўнікоў усіх узроўняў — ад заводскага майстра да людзей з адміністрацыі прэзідэнта і Кабінет Міністраў, дык рускія складуць там ці не большасць. І не таму, што яны разумнейшыя: такая была (мяркую, і ёсць) кадравая палітыка.

Дзе і хто на Беларусі шальмаваў рускую мову і рускую ментальнасць? Мо сп. Арцюшэнка мае на ўвазе ўжо "хрэстаматыйны" артыкул Пазняка? Дык там і ні слова пра мову і менталітэт — выключна пра імперыялізм, прычым на матэрыях расійскай прэсы. І сёння ў Расіі пішуць пра тое ж самае, прычым вельмі паважаныя газеты. Дастаецца, дарэчы, ад расійскіх аўтараў і расійскаму менталітэту.

Закон аб міжнацыянальных зносінах, зноў жа, прыдумалі не нацыянал-дэмакраты. Якраз парламенцкая апазіцыя БНФ сцвярджала, што на Беларусі, дзе няма глебы для міжнацыянальных канфліктаў, няма і патрэбы ў спецыяльных законах для рэгулявання міжнацыянальных стасункаў і спецыяльных бюракратычных структур для "кіравання" гэтай галіной. Аднак Закон быў прыняты...

"Дзеянне нараджае супрацьдзеянне" — рускія пачалі аб'ядноўвацца..." Якое дзеянне і ў імя чаго аб'ядноўвацца? Няўжо прызнанне (прычым чыста дэкларатыўнае, бо практычных зрухаў не было) прыярытэту беларускасці ў Беларусі чымсьці пагражала вялікай рускай культуры і мове, на якой гавораць дзесяткі мільёнаў чалавек? Гэта называецца "наязджаць" на правы"? Аб'яднацца, каб не быць нацменшасцю? А кім тады? Мо каб загнаць беларусаў у іхняй жа хаце пад лаўку — маўляў, "здесь Россия"?..

"Рэферэндум" і іншыя крокі "вертыкалі" якраз і зацвердзілі "двухабшчынны" падзел беларускага грамадства. І гэта, відаць, галоўнае, што надае сацыяльнай сітуацыі напружанасць.

Тым, каму было ў Беларусі добра за камуністычным часам, было добра за кошт беларусаў. У нас не пыталіся, калі праводзілі палітыку "зліцця нацый"; калі размяшчаліся на нашай зямлі ядзерныя арсеналы і шматтысячныя вайсковыя кантынгенты; калі навязвалі нам будаўніцтва прамысловых гігантаў (якія цяпер стаяць з-за адсутнасці сыравіны і пакупнікоў прадукцыі); калі вывозілі ў маскоўскія сховішчы нашы каштоўнасці, ладзілі над гэтай зямлёю і народам мыслімыя і нямыслімыя эксперыменты. Гэты час канчаецца — вось і ўзняўся вэрхал: "Наших бьют!"

Чатыры гады пад дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам былі як прышчэпка незалежнасці для зламанага 200 гадоў назад дрэва Беларускай дзяржаўнасці.

Што б там ні казалі — яно прыжылося!

Я бачыў напісаныя дзіцячай рукой у школьным сшытку словы: "Беларусь — незалежная дзяржава". Калі вучань падрасце, ён будзе здольны ўзяць у рукі і кельму будаўніка, і аўтамат, каб дабудаваць, а калі спатрэбіцца, то і абараніць — Беларускі дом.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# БЕЛАРУСЬ: ТВАРАМ ДА ЧАЛАВЕКА

Як вядома, працэсы, што адбываюцца на планеце, паставілі чалавецтва перад неабходнасцю выпрацоўкі агульных накірункаў развіцця. А для гэтага неабходна арганізацыя шырокага абмену дакладнай інфармацыяй пра цяжкасці і дасягненні кожнай з краін, што дазволіць не толькі ўлічыць разнастайнасць умоў чалавечага развіцця, але і назапасіць вопыт вырашэння гэтай праблемы. Прымаючы гэта пад увагу, Адміністратар праграмы Развіцця ААН (ПРААН) Джэймс Густаў Спэт звярнуўся праз Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь да беларускага ўрада з прапановай ажыццявіць распрацоўку Нацыянальнай праграмы аб чалавечым развіцці. Урад падтрымаў прапанову і прыняў рашэнне аб стварэнні спецыяльнай групы для падрыхтоўкі такой справаздачы. Нацыянальным каардынатарам і кіраўніком рабочай групы стаў акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук Акадэміі навук Беларусі Г. Лыч. А ў групу ўвайшлі высокакваліфікаваныя спецыялісты і вучоныя з Акадэміі навук, сістэмы вышэйшай адукацыі і галіновай навукі, міністэрстваў і ведамстваў, грамадскіх арганізацый. У прыватнасці, пытанні эканомікі, куль-туры, адукацыі разглядаў І. Абрамаў, нацыянальна-культурнага развіцця — А. Майхровіч, моўнай палітыкі — А. Падлужны...

Мы паведамлялі ўжо, што ў Акадэміі навук прайшла прэзентацыя гэтай Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці. Думаецца, ёсць патрэба запыніць больш пільную ўвагу на яе асноўных момантах. Найперш на тым, як ажыццяўляецца ў нас нацыянальна-культурная палітыка.

У сённяшніх умовах, падкрэсліваецца ў справаздачы, нацыянальна-культурнае адраджэнне становіцца адным з рашаючых фактараў забеспячэння ўстойлівасці чалавечага развіцця рэспублікі. Аднак распаўсюджванне і сцвярджэнне дэмакратычных каштоўнасцей у грамадстве пакуль не стала незваротным працэсам. Назіраецца пастаяннае вострае процiборства магутных усходніх і заходніх уплываў, што перашкаджае развіццю беларускай нацыі, яе самасвядомасці і культуры. Паступова аформілася і сцвердзілася дваістасць, двухполюснасць арыентацый (Усход—Захад) нацыянальнай свядомасці, а гэта, як гаворыцца ў справаздачы, з'яўляецца патэнцыяльнай асновай ідэйна-палітычных канфліктаў. Адным з вынікаў гэтага стала існаванне ў Беларусі мноства самых розных канфесій — праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і іншых. Іх дзейнасць не стала фактарам стабілізацыі агульнага становішча. Наадварот, поўная залежнасць Беларускай праваслаўнай царквы ад Маскоўскага патрыярхата і цесныя сувязі каталіцкай царквы з Польшчай уносяць пэўны раскол у беларускае грамадства, перашкаджаючы яго сацыяльнай інтэграцыі.

Аднак, канстатуецца ў справаздачы, бадай, галоўным негатыўным вынікам двухполюснай арыентацыі грамадскай свядомасці беларусаў з'явілася і тое, што іх нацыянальная культура і мова аказаліся зведзенымі да становішча другараднага элементу грамадска-культурнага развіцця. У цяперашні час беларускай нацыянальнай культуры, па сутнасці, не існуе ў цэласным выглядзе. Сведчаннем дыскрымінацыі нацыянальнай мовы і культуры з'яўляецца той факт, што абарону нацыянальна-культурных інтарэсаў часцей за ўсё бяруць на сябе грамадскія арганізацыі, напрыклад, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, а не дзяржаўныя ўстановы... Пільная неабходнасць нацыянальна-культурнай кансалідацыі ставіць перад урадам у якасці адной з першачарговых задач хутчэйшае стварэнне ўсяго комплексу ўмоў для паўнацэннага развіцця і функцыянавання ўсіх важнейшых сфер беларускай нацыянальнай культуры: мовы, адукацыі, прэсы, выдавецкай справы, радыё, тэлебачання, літаратуры, тэатра, культурна-асветніцкіх цэнтраў і г. д.

Як адзначаецца ў справаздачы, цэнтральнае месца ва ўсёй нацыянальна-культурнай палітыцы ўрада Рэспублікі Беларусь павінна заняць пытанне аб мове. Гэта тлумачыцца не толькі тым, што менавіта мова складае аснову нацыянальнай культуры народа, але і тым, што яна прымяняецца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, у сувязі з чым і найбольш вострыя супярэчнасці ў духоўным развіцці грамадства таксама найбольш часта здараюцца на моўнай палітыцы.

Статус мовы ў грамадстве, гаворыцца ў справаздачы, вызначаецца не толькі колькасцю яе носьбітаў, але і сферай ужывання. Яшчэ не так даўно адзінай сферай, у якой беларуская мова ў пісьмовай форме жыла паўнакроўным жыццём, заставалася літаратурная творчасць. Вусная ж мова захавала пэўныя пазіцыі на радыё і тэлебачанні, у нацыянальным тэатры, сярод інтэлігенцыі гуманітарнага кірунку, у тым ліку і настаўнікаў агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання.

Аналізуючы цяперашняе становішча з мовай, аўтары справаздачы зазначаюць, што галоўнай перашкодай на шляху ўмацавання пазіцый беларускай мовы як дзяржаўнай, крыніцай расслаення грамадства і ўзрастання нестабільнасці з'яўляецца невыкананне той часткі Закона аб мовах, якая вызначае яе ўжыванне ў органах дзяржаўнага кіравання, на прадпрыемствах, ва ўстановах, грамадскіх арганізацыях. У прыватнасці, акты органаў выканаўчай улады, справаводства і дакументацыя працягваюць выконвацца на рускай мове, якая застаецца і адзінай мовай узаемаадносін дзяржаўных органаў, устаноў і прадпрыемстваў.

А як не прыслухацца да гэтага вываду?! — "Ураду і грамадзянам Рэспублікі Беларусь неабходна як мага хутчэй усвядоміць, што дзяржаўнае двухмоўе не можа спрыяць стабільнаму развіццю грамадства. Яно вядзе толькі да пастаянных выбухаў канфліктаў на моўнай аснове. Толькі адзіная дзяржаўная мова як сродак захавання і развіцця культуры, прадмет і інструмент адукацыі, а затым і як сродак афіцыйных зносін кансалідуе нацыю, дазваляе кожнаму індывідууму адчуць адзінства з усёй краінай".

Справаздача ў цэлым прасякнута клопатам пра заўтрашні дзень Беларусі, пра тое, каб яна годна пачувала сябе ў свеце.

**А. М.**

Пошта

# ЗБЕРАГЧЫ ГАЛАСЫ

Пакрысе ад нас адыходзяць нашы пісьменнікі і паэты. Пайшоў Крапіва, Скрыган, Асіпенка, Вялюгін... У сталым веку сёння шэраг іншых дзеячаў літаратуры. Таму надзвычай важна будзе захаваць для нашчадкаў іхні голас, іхнія ўспаміны.

Я аніразу не чуў голасу Купалы ці Коласа. Можа, дзе яны і захаваліся на кінастужцы ці пласцінцы...

Я прапаную, каб адмыслова для гісторыі былі запісаны на магнітную стужку выступы (успаміны, чытанне сваіх твораў) усіх цяперашніх нашых пісьменнікаў і паэтаў. Акрамя гістарычнай каштоўнасці, гэта і культурны здабытак. На захадзе заўсёды можна набыць запісы твораў знакамітых сучасных аўтараў у аўтарскім чытанні.

Мяркую, што знойдуцца людзі, ахвотныя заняцца гэтай важнай справай для нашай культуры.

**Мікола БУСЕЛ**

*в. Дуброва Светлагорскага р-на*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

У генералаў чырванню наліваюцца вушы, калі мацеркі бароняць сваіх сыноў... На фронце поспех — аснова асноў, лічаць перамогі, а не загубленыя душы. Генерал загадаў — і да пэўнай даты ў зямлю паляглі салдаты.

●

Звяртаюся да вучоных-моваведаў, не прапусцім гэтага шансу, створым грунтоўную энцыклапедыю руска-беларускай трасянкі. Вакол узоры найвышэйшай пробы, хопіць і прамоў адной асобы.

●

Учора хавалі інваліда з плошчы Перамогі. Дзень пусталі "неліквіды" — скрынкі, дзе ён трымаў свае ногі, пасечаныя на Айчыннай. Сёння іншы там клянчыць, іншы абжыў начынне, сапёр, што недзе за Пянджам пазнаўся з афганскай мінай. Не пустуе парадная плошча, а вайна ўсё хвошча і хвошча.

●

— Растлумач дзіцяці, што такое філасофія, — папрасіла жонка. — Мудрасць жыцця, — адказаў муж. — Працей неяк. — Ну, прыходзіць маці ў магазін, бачыць новую цану і абураецца: "Як дорага!" А прадавец адказвае: "Што цяпер дзешава?" Гэта і ёсць філасофія. — Такой філасофіі ў чэргах колькі заўгодна. І старажытныя грэкі гуртам абмяркоўвалі вечнае і надзённае. — Няўжо і ў іх не хапала ежы? — войкнула жонка. — Дзякуй, бацька і маці, я ўжо амаль разумею, што такое філасофія, — сказала дачушка.

●

Назваў магазін "Блага", і здзіўляецца, бедалага: не йдуць пакупнікі. Анекдатычная сітуацыя? А мо трагедыя нацыі? Бо калі родныя словы страцілі змест, нешта чужое ўзнікае замест, чужое, благое, смяротэльны замес.

●

Фабула фарса: касмічны карабель высаджваецца ў Забалачанску і абвяшчае аб вяртанні савецкай улады. Як павядуць сябе былыя лідэры, што паспелі ўжо стаць гаспадарамі новага жыцця?

●

У шасцідзесятых пісьменнік Н. аднавіў сваё членства ў партыі. Шлях яго быў пакутлівы: арышты, лагеры, ссылкі. І вось першае выступленне на сходзе аб выкананні партыйных даручэнняў. Учыніў такі разнос некаторым, што ці не аргвывады рабі. Да скону дзён Н. жыў катэгорыямі трыццатых, і гэта было, мабыць, самае страшнае ў ягоным лёсе.

# ЛіМ "ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ"

Васіль ВІТКА



## РЭКВІЕМ ПА ЗАБІТАЙ РЫФМЕ

Я рыфму забіў. Я забойца.
Даруй, дарагая, што гэтак доўга
Я цябе мучыў.

Сам сірата ўжо.
І ўсё, што было і што ёсць, і што будзе,
Асірацела

І анямела, як сам анямеў я,
Аглух
І аслеп.

Раскроіць яшчэ хоць зярнятка
Напал,

На дзве запаветныя палавіны,
Каб паміж імі пабачыць аснову,
Каму яшчэ суджана нарадзіцца —

Коласам закрасаваць,
Ці загучаць
Новай песняй...

Праклён вам, жорны
І млён, і мліва,
Праклён вам, чорныя дні,

Калі на зганьбаванай абрабаванай ніве,
Аплаканае рабамі "ЛіМа",
Мы рвалі не рыфмы,

А ўласныя сэрцы,
Што потым так доўга
Ляжалі ў моргу,

Гатовыя без дамавіны
Да вынасу,
Але ўваскрэслыя на саракавіны.

Благая пагудка пра паэта бытуе,
Які дзеля рыфмы
Роднага бацькі не пашкадуе.

Я рыфму забіў,
Не бацьку,
А самазванку,

Каб з самазванцам
Не магла
Зрыфмавацца.

Язык скамянеў,
Як у жорнах той круг,
Што млёнам яго не скрануць і аберуч.

І марна цяпер намагацца

Асанна асіне,
Каторая самазванку прыме:
Вісі, іжэ есі,
пакуль тваё не забудзецца імя.

Мікола КУПРЭЕЎ



## МОКАШ

На кручы дняпроўскай,
між доўгай вадою і доўгім сонцам,
Мокаш*,
заплюшчыўшы вочы, сядзіць,
перасыпае пясок
з правай далоні ў левую,
з левай у правую,
голлем яліны вецер
расчэсвае ёй валасы сівыя —
сцякаюць па жоўтым пяску
ў плывучую плойму.

І з нетраў лясных баркулабаўскіх
ідзе да яе мужык —
у адзенні белым,
вочы блакітныя,
пояс чырвоны.

Жыта мяшок і кадоўбец мёду
паставіў Бялун ля Мокашы.
Перасыпае пясок яна
з левай далоні ў правую,
з правай у левую.

І з-пад карэння алешын,
з-пад горкай асіны
ўзышоў перад ёй Чарнабог —
каб корань уперці ва ўлонне яе,
а Баба
перасыпае пясок
з правай далоні ў левую,
з левай у правую.

Але ўлонне яе страпянулася:
"Біцеся!"

І жыта ўпала ў поле,
мёд пераліўся — вярнуўся -- у краскі,
вочы блакітныя сталі азёрамі,
а Чарнабог рагоча —
аж ля Рагачова
у сваёй Ладдзі Роспачы
думу думае Караткевіч
над бурнай ракой і чуе:
Жанчына смяецца на кручы,
з чорным мужчынам шалёна скача,
і пясок з далоняў яе ападае
каменнем грымучым.

Плыве Ладдзя Роспачы ў Прыпяць —
пастукаўся ў Тураве
ў дзверы Клакоцкага**:
"Памажы мне дабрацца дамоў —
у магілу маю..."
Ляціць Чарнабог і рагоча
над котлішчам Бабчына і Калыбані,
над усебеларускай Радаўніцай у Зоне,
над "Запавітом" высокім у Каневе,
над разбітай мячэццю Крыма,
над крыжам пакутным Максіма,
над расейска-ўкраінскім
Эўксінскім Понтам,
кінуў на Турцыю ружу
ад слонімскіх туркаў,
"Маю Іліяду" спаліў над слядамі Гамера.

Унізе Ярдан пад рукою Хрысціцеля
хваляю б'ецца ў каменне пустэльні,
і роспачна дзева Марыя шукае, цалуе
след свайго сына між тога камення,
і Бог-бацька ў нябёсах схіліўся
над дарогаю сына:
ён на Поўнач пайшоў па цернях.

У хмарах над ім Чарнабог ляцеў —
назад,
каб паспець...

Звар'яцелая Мокаш пад кручай
штурхае нагамі пясок —
правай да левае,
левай да правае.
Ён за валоссе Мокаш на кручу ўсцягнуў,
у далонь ёй пяску насыпаў...

І з высокіх туманаў сыходзіць Ісус,
над чалом яго німб залаты.
Пацяплелі азёры блакітныя,
на іх берагах народ
рукі свае распасцёр да Бога,

і новае жыта рунее на полі,
і пчолкі з красак збіраюць мёд.

Камень узяў у руку Чарнабог
і кінуў у Божага Сына.
Камень той доўга ляцеў, ды Ісус
не адхіліў, не схіліў галавы,
святое чало не закрыў рукамі...

Павярнуўся Ісус і ціха,
на спіну ўзваліўшы сасновы крыж,
пайшоў праз туманы —
на Галгофу сваю высокую...

З глыбіняў зямлі, з-пад крыжоў
кожнай раніцы чуюцца два галасы:
"На Беларусі Бог не жыве?"

"А дзе мае коні з Пагоні?"

Кажу пад Збароўскай гарой:
"Не жыве".
"Паскакалі кудысьці ўперад —
шукаць сваіх вершнікаў".

...Між вадою кароткай і сонцам кароткім
Мокаш,
расплюшчыўшы вочы шырока,
апантана кідае пясок
з правай далоні ў левую,
з левай у правую...

...Народ скамянеў ля блакітных азёраў.

...Мокаш вочы мае засыпае пяском...

* У беларускай, да паганскіх часоў, міфалогіі — дух часу.
** Краязнаўца, сябра У. Караткевіча.

Масей СЯДНЁЎ



## ХЛУСЛІВЫЯ ВУСНЫ

*...і вялікая пустэча запануе на гэтай зямлі... але як ад тэрэвінфа і як ад дуба, калі яны і ссечаныя, застаецца корань іх, гэтак святое насенне будзе коранем ейным.*
*Прарок Ісайя, раздзел 6.*

Прысніў у сне я ўчарашнім:
аднекуль, здалёк
прыйшоў на зямлю нашу
Ісайя-прарок.

З выглядам нейкім балесным,
якога схаваць не мог,
у рызе нябеснай
і серафімамі па баках.

І вось нозіркам Ісайя блудзіць
па ўсенькай нашай зямлі.
Хацеў ён дазнацца, ці людзі
слова Божае зберaглі.

Найперш, ці яны хлусяць,
ці праўду гавораць яны.
Карацей кажучы, Ісайя мусіў
устанавіць ступень маны,

што, як ён чуў, пакрыла
тоўстым пластом усю паверхню зямлі.
(Серафімы шасцікрылыя
пра гэта яму данеслі).

Збудаваў Ісайя трыбуну хутка
і прыладзіў на ёй мікрафон.
Каб было ўсё спраўна і чутка,
ён праверыў шнуры і направіў тон.

Разаслаў ён ува ўсе канцы серафімаў,
каб сабралі яны
ўсіх выдатных прамоўцаў,
ды хутчэй, як толькі магчыма.
Для чаго ж? — Ісайя прамоўчаў.

Вось прыехалі тыя прамоўцы,
і бысцам да якога трону,
Ісайя пачаў па радоўцы
выклікаць іх да мікрафону.

Каб з іх кожны як найкарацейшую
сказаў прамову.
(Прамоўцы не надта былі ўсцешаныя
такою умовай).

І пачалі яны навыперадкі адзін перад
адным,
як у парламенце,
языкамі мянціць.

Прарок Ісайя ўсё слухаў і слухаў,
усенькае хацеў уцяміць.
Аж у прарока Ісайі вухі
пачалі вянуць.

Пачаў прасіць скончыць,
ды яны ўсё не канчалі.

Ткнуць рукамі, падскочаць,
нібы ў нейкім адчаі.

Часам у пакутлівай позе,
у экстазе нейкім буйным,
кінуўшы злосны позірк,
кулакамі б'юць па трыбуне.

Як ад пакуты нейкай,
ці ад дыму
уздрыгвалі вейкі
у серафімаў.

Тут Ісайя як крыкне:
— Шэльмы,
разышліся вы вельмі!

Вы ўсе, як адзін, хлусілі
колькі ў вас было сілаў.
Накладу я на вас пені
за ману ў найвышэйшай ступені.

Зірнуў на нябёсы Ісайя,
і вомірг перад ім
з нябёсаў злятае
серафім.

Такі прыгожы, вячысты
увесь у золаце, чысты.
У руках яго вугаль,
распалены да чырвані...
Насцярожылі вуха
прамоўцы шчырыя.

Серафімы шасцікрылыя
тут адразу акружылі іх.
І без бойкі, паспяхова
узялі іх пад ахову.

І пачаў Ісайя прамоўцаў
выклікаць па радоўцы.
Яны да яго падыходзілі,
а вачэй з серафіма не зводзілі.

Серафім жа з вуглём да чырвані
паглядаў на іх ласкавымі вачыма.
Стаў побач Ісайя
з вуглём, што чырванню ззяе.

— Падыходзь, не бойся
слова Боскага, —
гаварыў Ісайя прамоўцу
і трымаў яго за локці, колькі моцы.

Серафім жа з вуглём,
як агнём:
— Падстаўляй свае вусны!
Прамоўца вусціўна:
— Абпякуся...
— Ты баяцца не мусіш.
Я толькі даткнуся
вуглём, як агнём.

І ён датыкаўся вуглём, як агнём,
і адыходзіў ад яго
прамоўца ягнём,
ачышчаны, балесны,
агнём нябесным.

Прарок Ісайя неадступны.
Ён сказаў:
падыходзь наступны!

(Падыходзіць наступны.)
— Падстаўляй свае вусны!
Прамоўца ж вусціўна:
— Абпякуся...
— Ты баяцца не мусіш,
я толькі даткнуся
вуглём, як агнём.

І ён датыкаўся вуглём, як агнём,
і адыходзіў ад яго
прамоўца ягнём,
ачышчаны, балесны,
агнём нябесным.

Гэтак вось серафім вячысты
датыкаўся вогнівам усіх чыста.
І дзіва: не балелі вусны
у прамоўцаў распусных.

Ісайя пасля гэтай працы
загадаў ім на трыбуну вяртацца.
І перад мікрафонам нанова
сказаць нейкае слова.

Запанавала вусціш:
што скажуць цяпер іх ачышчаныя вусны?
І вось узыходзяць па радоўцы
на трыбуну прамоўцы.

І за той далёкаю гарою
Грымне раптам пракаветны гром.

Пойдзе ў рост і жыта і пшаніца,
П'янкая чаромха зацвіце...
Толькі б зноў Чарноблю не дыміцца
Ні на гэтай, ні на той вярсце.

## СЯБРАМ

Мы рэдка сустракаемся, сябры:
Жаданне ёсць, ды грошай не хапае
І часу, што ляціць ужо з гары,
І нас ляцець з сабою прымушае.

Няўмольны, супярэчлівы наш час:
Дзесяткі нажываюцца на рынку
Тады, калі ў мільёнаў, як і ў нас,
Ледзь-ледзь хапае на адну скарынку.

Мы сціпла творым на сваёй зямлі,
Матулінае слова прывячаем.
А побач ходзяць горда "каралі",
Багаценькія з напага адчаю.

Ды вартыя чаго мы, чорт вазьмі,
Калі ў сваёй зямлі чужымі сталі,
А набрыдзь нажывае капіталы
На нашым горкім поце і крыві!

Яна не льецца, яе смокчуць так,
Як быццам аніхто гэта не бачыць...
Сябры мае, напэўна, я — дзівак,
Што па-старому і жыву і плачу.

## СУЗОР'І І ЗОРЫ

Колькі ўжо "сузор'яў" і "зор"
Зляцела на шыльды кааператываў,
Розных крам і шалманаў
Перабудовачнай нечысці!
Ды гэта не тыя сузор'і і зоры,
Ад якіх святлее розум і сэрца,
А тыя, пад якімі правіць свой баль
Цемра спекуляцый, махінацый,
прастытуцыі
І немінуча — забойства.

## І ЗНОЎ ТАБЕ

"Без веры нічога няма,
Без веры не будзе нічога..."
Ты гэтак сказала сама
Які ўжо мне раз на дарогу.

Я ведаю, любая, ты
Яшчэ сумняваешся ў нечым.
Не трэба — былога масты
Ўсе спалены з нашай сустрэчы.

Ты ў вочы мае зазірні —
Яны недавер твой адпрэчаць.
Ніколі табе не маніў —
Не лечыць мана, а калечыць.

Без веры нічога няма.
Без веры не будзе нічога.
Яшчэ толькі восень, зіма
Не хутка заснежыць дарогу.

Трывогу сваю супакой,
Мяне супакоіш ты гэтым...
Дажджынкі ляцяць у пакой
Табою сагрэты і летам.

## ВІНА

Я даўно смяяцца развучыўся,
Нават усміхацца цяжка мне:
Смутак гаспадарліва прыжыўся
Ува мне, а па чыёй віне?

Можа, час у гэтым вінаваты,
Можа, пражытыя гады?
Толькі знаю, што за ўсё адплату
Буду аддаваць я і заўжды.

А віна мая — яна без краю,
А віна мая — без берагоў,
Бо я ўсё сваё благаслаўляю
І малюся на сваіх багоў.

А яны — мая зямля і неба,
Між якімі, як загадка, ты.
А віна, што я кавалку хлеба
Рады быў, малы, да нематы.

Еў яго з падпаленай скарынкай...
Па табе канаў сярод начэй.
Хай зеленаватыя іскрынкі
Не знікаюць з любых мне вачэй.

Вінаваты, як я вінаваты
Прад людзьмі і небам і зямлёй...
Я гатовы да любой адплаты.
ГОСПАДЗІ,
Даруй і супакой!

## Пятро ПРЫХОДЗЬКА



## РАВЕСНІКАМ, ЯКІХ УЖО НЯМА

*Так ничего и не узнали,*
*и не увидят никогда.*
*Аляксандр ДРАКАХРУСТ*

Равеснікі мае, сябры пары суровай!
Было б вам сёння столькі, колькі й мне.
Вы гэтак рана пад зарой барвовай
Пакінулі свет гэты на вайне.

Не ўбачылі жаданай перамогі,
Яе салютаў і святла, і слёз.
Ні кроку не ступілі вашы ногі
Назад дадому пад блакіт нябёс.

Нічога вы не ўведалі пра тое,
Як пачалі мы жыць пасля вайны:
Каму — на радасць сонца залатое,
Каму — з кішэні кукіш сатаны...

Вас чорным дымам засланілі далі,
Навек укрылі чэрстваю зямлёй.
А вы так нам нічога не сказалі
Аб тым, як жыць адзінаю сям'ёй.

Не дачакаліся канца вы бою
Апошняга, над Эльбай за гарой.
Як шмат забралі думак вы з сабою,
Якіх нам больш бы сённяшняй парой.

Бо нават палкаводцы баявыя
Між багнаў заблудзіліся сваіх...
Мо лепей падказалі б радавыя,
Як і куды хутчэй нам выйсці з іх...

## ЗЯМЛЯ РАДЗІМЫ

Зямля радзімы — край родны, мілы!
З вякоў далёкіх у новы час,
Узняўшы ў высі тугія крылы,
Ты праз стагоддзі пранесла нас.

На белым фоне святлом свячэння
Гараць аблокі тваіх нябёс.
З глыбокай ночы ў дзень адраджэння
Адважны коннік нас смела нёс.

Мы там, дзе нашы лясы і гоні,
Заўсёды разам з табой былі.
У вечным руху тваёй Пагоні
Аж да Берліна ў баях дайшлі.

Свой край, як сіні ліст на галінцы,
На карце свету мы пазнаём.
Зямлі радзімы больш не скарыцца
Ні пад ніякім ліхім агнём.

Лёс выпаў славіць жыцця аснову —
Край суверэнны вышэй узняць.
Мы маем песню сваю і мову,
Якіх нікому ў нас не адняць!

## БУЙНІЦКАЕ ПОЛЕ

Зямля палымнела жытнёва,
Абпаленая вайной.
За ўсходняй сцяной Магілёва
Само поле стала сцяной.

Захопніку ў цэнтры Еўропы
Змагло яно безданню стаць,
Траншэі свае і акопы
Амаль цэлы месяц трымаць.

Агонь смертаноснай віхуры
На часткі зямлю разрываў.
Пад танкі і на амбразуры
Ўвесь край прыдняпроўскі ўставаў.

Адвага людская праз вёрсты
Сюды — да глухога сяла —
Ад Брэсцкае крэпасці проста
К Буйніцкаму полю ішла.

Нікому над подзвігам ратным
Зямлі не парваць нашай ніць.
Хай вершнік пад мечам булатным
На быстрай Пагоні ляціць!

Святлеюць над полем бярозы
За хмаркі нябёснай бялей.
У возера "Матчыны слёзы"
Углядаюцца дрэвы з алей.

Шуміць пераспелае лета,
Нібы не змаўкае зусім.
Тут свеціцца імя паэта
Па кнігах вядомага ўсім.

Буйніцкае поле! З табою
Нясём сваю квецень вясне, —
Каб толькі цябе полем бою
Не бачыць нам болей і ў сне!

## КАЛІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА НАТХНЕННЕ...

Калі з'яўляецца натхненне,
Каб свету што сваё сказаць, —
Лаві хутчэй зары праменне,
Каб іх у песню завязаць.

Паэзія агнём нятленным
Святло дасць нівам і лясам
І стане адкрыццём імгненным,
Якога не чакаў і сам.

Яна — плады тваёй навукі,
Бяссоння дзён тваіх, начэй.
У ёй ты чуеш тыя гукі,
Што сэрца ўласнага цішэй.

Яна гучыць святой малітвай
Бы ў храме перад алтаром.
З табой гамоніць нівай жытняй,
Каб не спаліў калоссе гром.

Калі ж бяда якая звонку
Нахлыне на бацькоўскі край, —
Сваіх пачуццяў, словаў звонкіх
Нікому не перавярай.

Узваж у думках дасканала —
Якая ноч і дзень які.
Усё, што сэрца падказала,
Ў свае ты занатуй радкі.

Яны паклічуць з ветру, з грому,
З прамення сонца свет любіць.
Твая паэзія нікому
Не можа падуладнай быць.

Яна — той свет, што кожны мае —
Спагаду, смутак і любоў —
Усё паэзія прымае,
Апроч хлуслівых пышных слоў.

## Змітрок МАРОЗАЎ



•

Пасеяна Д'яблам распаду насенне,
Гудзе, нібы мора, народаў сям'я...
Ды ёсць на зямлі для мяне, як збавенне,
Радзіма, радзіна, рабіна мая.

Там жыта з вятрамі гуляе-гамоніць,
Там сонца купаецца ў росных гаях.
Як сына, мяне там чакае і помніць
Радзіма, радзіна, рабіна мая.

Калі ж давядзецца, знямогламу, ўпасці,
Калі адгару да крывіначкі я,
Няхай закалыша мой сон, быццам маці,
Радзіма, радзіна, рабіна мая.

## КУЛІНА

Жыве на кухні ў сына
Нямоглая Куліна.
З нявесткай век у згодзе —
На залу не выходзіць.
Спявае песні ўнучцы
І спіць на раскладушцы.
Ні ў чым не замінае
Сынку свайму старая.
Быў у калгасе слесар,
Цяпер жа ён прафесар.
Начамі нешта піша,
Куліна ледзьве дыша.
І толькі моліць: "Сынку,
Перадыхні хвілінку".
За поўнач засынае
І сон яе вяртае
У новую хаціну,
На лаўку пад рабінай.
У зборы ўся сямейка:
Куліна, муж, Андрэйка.
І салаўі шалеюць,
І травы ў лузе спеюць,
І лад стаіць навокал...
І да вайны далёка.

•

Воблакі плывуць на край свету.
Ды кожны раз вымушаны вяртацца сюды,
Каб расказаць на мове ліўняў і снягоў
Пра адно і тое ж:
як добра там, дзе нас няма.

•

Я аднойчы адгэтуль паеду
І згублюся ў сутонні завей,
Не пакіну ніякага следу
На сухой верасьнёўскай траве.

Я аднойчы адгэтуль паеду,
Не суцешыўшы маці сваёй,
І вясковыя клопаты-беды
Не вазьму я ў дарогу з сабой.

Я аднойчы адгэтуль паеду...
У сталічнай кватэры начной
Буду Блоку маліцца і Фету,
А не матчынай песні жывой.

Я аднойчы адгэтуль паеду...
Буду вольна і праведна жыць...
І чаму ж гэта памяць па следу,
Як жабрачка, за мною бяжыць?

## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



•

Ізноў гараць кляновыя лісты,
Што нават птушкі могуць апаліцца.
І сэрцу гэтак хочацца адкрыцца
Для ісцін, і спрадвечных, і святых.

І блізка падысці пад самы край,
І пазіраючы ў нязведаныя дзверы,
Паверыць у сябе і ў родны край.
Насуперак завеям злым паверыць.

•

Пасля начнога мораку зямля
Павее халадком і цёплым хлебам.
І сонцу маладому ёсць патрэба
Палюбавацца на яе здаля.

Тут дрэвы, тут рачулка, тут мурог,
Халодная жарства з птушыным граем...
І гэта ўсё пасля маіх дарог
З адданасцю адвечнаю чакае.

У скрыжаванні рухаў, на мяжы,
Апанаваны прагаю сваёю,
Я зноў хачу мой новы дзень пражыць
З вось гэтаю адзінаю зямлёю.

•

Цьмяна зорка гарыць,
ліст асенні дрыжыць,
На парозе туман і завея.
Ад душы да душы не бывае мяжы,
І кардонаў не знае надзея.

Хто для думкі імклівай
паставіць заслон,
Хто ад розуму знойдзе ахову,
І які там найноўшы і строгі закон
Забароніць адвечнае Слова?..

Не, не вартыя роспачы, гора і слёз
Пух пярыны і смачная ежа!..
Бо з дакорам на нас пазірае Хрыстос.
Ён таксама не ведае межаў.

•

*Не выходи из комнаты,*
*не соверши ошибку...*
*І. БРОДСКІ*

Не выходзь з пакоя, не выходзь,
Бо паветра поўнае табою,
Бо вачыма, з сумам і журбою
На мяне глядзіш ты сёння. Хоць

Я ўжо знаю, што апошні раз
Гэты дзень, і вечар, і гардзіны,
Пах памады, важкія карціны,
За вакном абледзянелы вяз.

Не выходзь з пакоя, не выходзь,
Бо калі ты выйдзеш назаўсёды,
Сам-насам я буду са свабодай,
Што мяне кранецца мімаходзь.

Не выходзь з пакоя, не выходзь,
Бо калі яшчэ мы жыць павінны,
Станеш кожнай рэччу напамінкам.
Не выходзь з пакоя, не выходзь.

## Сяргей ВЕРАЦІЛА

# “І ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПРАЙШОЎ...”

●

Маё жыццё складваецца
З выкураных цыгарэт,
З прачытаных кніг,
З выпітых кубкаў чаю.

Усё гэта неяк склеена дзіўным ладам.
І калі расклеіцца нешта,
Усур’ёз звязанае з рытмам сэрца,
Я перастану існаваць?

●

Я ўвесь распадуся на пяць стыхій.
Падобна на тое, што гэта
Адбудзецца хутка.
Мой верш панясе мой подых,
Што яшчэ застаецца ветру?

●

Быў дождж, і быў абед.
Я стаяў ля зачыненай крамы.
Мокры дым дарэмна стараўся
Мяне суцешыць —
Несуцешна слязілася неба.

●

Буду старанна вучыцца цярпенню
У камянёў і ў дрэў,
У кволай травы
І ў пальцаў,
Што даўно забыліся
На пяшчоту твайго цела
І ссохліся —
— Пазногці гэтаму сведкі.

●

Выпіць кубачак кавы
І не ўбачыць дна.
Перавярнуць на сподачак
Гушчу
І не здагадацца
Пра будучае,
І не ўзгадаць пра ранейшы
Кубачак кавы.

●

Я прамовіў тваё імя,
І яго падслухала ноч:
І патапіла яго гучанне
У глыбінях свайго маўчання.

●

Ужо чарнеюць чаромхі ягады,
Ужо яблыкі кажуць бакі абагрэтыя.
А ў твае валасы павуцінка ўпрадзена —
Прадвесніцаю бабскага лета.

●

Змяніўся шэры ранак шэрым днём,
І шэры вечар стаў яго наступнік,
А неба пад аблокавым рыззём
Сабе гатуе да Калядаў крупнік.

●

Дождж толькі пакрапаў, і то на ўскраіне,
Яму, дажджу, — па-любому.
Я, асцярожна і лёгка ступаючы,
выйшаў з дому
З горадам на спатканне.

Цягнікі па рэйках развозілі накірункі,
П’яны бомж мармытаў шчасліва,
Ашалелая баба плакала з клункамі.
Вакзал гаманіў: прадавалі цыгарэты,
целы і піва.

А я — адчужэлы, мне мітусня —
не даспадобы,
Вывальваюся, пазбягаючы ачмурэння
і гвалту.
Пранеслі булкі з карыцаю —
запахла здобаю,
Мне падабаюцца пахі такога кшталту.

Яшчэ падабаецца, як квітнеюць ліпы.
(Такога спякотнага ліпеня
мне не прыпомніць.)
Я навучыўся думаць голасам нізкім
і хрыплым,
Недзе нават салодкім,
як вобраз жанчыны паўсоннай,

Мяккай і цёплай,
як сагрэтая сонцам лава,
І такой жа даступнай,
што можна плаціць перасохлым
лісцем.
Пальцы доўгія, тонкія кісці —
У маёй каханай, а вечар крывавую

На даляглядзе
ўжо падводзіць рысу спатканню,
Там, на захадзе,
гэта можна ўбачыць любому.
Дождж толькі пакрапаў, і то на ўскраіне.
Я не выходзіў з дому.

## РАЗЛАД

Мой цень сыходзіць й ляскае дзвярыма.
Жывая кроў мне ў скроні б’е:
Я і мой цень — мы сталіся чужымі,
А за вакном халодны дождж ліе.

Намокне цень і вернецца дадому:
Яму нагрэю моцны чорны чай.
А мне пра ўсё, пра гэта наперад вядома,
А у яго вачах чытаю я адчай.

Мы сядзем тут за стол на кухні,
Я моўчкі прапаную закурыць...
І раптам, здарыцца, святло патухне,
І шкло ў вакне ад ветру задрыжыць.

Ён стане слухаць,
субяседнік мой маўклівы,
Як непагадзь лютуе за дзвярыма.
І я прызнаюся, што цалкам нешчаслівы
З таго, што я цень — мы сталіся чужымі,

Ён вернецца, я ж нездарма на кухні
Яму гатую моцны чорны чай
І ўсё баюся: раптам, здарыцца,
святло патухне?
Як ён заўважыць у вачах маіх адчай?

●

І я змаўчу,
І не паўторыць рэха:
пакрыўдзіцца і замаўчыць таксама.
І чай састыне.
Я на чай забыўся.
Я сёння — зноў адзін.
Сяджу маўкліва і чакаю,
Што цені, цішыня і вечар
Запоўняць паступова мой прытулак.

А потым я дазволю сну
Мае заплюшчыць вочы.
І перад тым імгненнем,
калі засну,
скажу,
а мо падумаю ўголас.
“І гэты дзень прайшоў”.

## Уладзімір МАРОЗ

# УСПАМІН ПРА МІКОЛУ РАВЕНСКАГА

Грай ты, скрыпка, нявесела грай —
У няволі так сэрцу маркотна.
Неспадзеўкі пакінуты край
За туманам прапаў незваротна.

Грай ты, скрыпка, нягучна іграй —
Смутак ціхі заўжды на чужыне.
На радзіме бярозавы гай
Разам з ветрам паплача аб сыне.

Грай ты, скрыпка, нядолю іграй —
Ад айчыны лісток адарваны
Лёсабур зваяваў, быдта май,
Знёс у горад юдолі нязнаны...

Грай ты, скрыпка, збавенне іграй —
Як дахаты спяшаюцца коні!
Светлай песні руплівы ратай
Зноў выходзіць на родныя гоні.

Грай ты, скрыпка, прасветлена грай —
До спраўляць лёсу баль свой атрутны.
Адшукаць зацярушаны рай
Дай нам сілы, о Божа Магутны!

# ЗГАДКІ ПРА НАПАЛЕОНА ОРДУ

За брамай мелодый забытых
Нячутна плыве паланез.
Мінуўшчыны водар, нібыта
Увосень прымроіўся бэз.

Няўлоўнасці дотык пякучы —
Ці ява, ці сполахі сноў?
За брамаю крокаў бязгучных
Вызвоньвае памяці кроў.

Тут згадкамі даўнія цноты,
Каб жар у душы не ачах.
За брамай жаданняў пяшчотных
Шчымлівае ростані пах...

За брамай памкненняў забытых
Надарыцца час адкрыцця.
Лістотаю жоўтай пакрыты
Шляхі, што вядуць з небыцця.

## САМОТНЫ ХУТАР

Хутар то побач, то недзе далёка зусім,
Прага сустрэчы то цішыцца,
то запануе.
Горка над котлішчам
тым узвышаецца ўсім
Дзікая груша, што хату самотна пільнуе.

Некалькі яблынь яшчэ,
пакручастых як лёс,
Цішу марозную рыпаннем
не парушаюць.
З імі антэна праменіць адчайнае sos,
Спадзеючыся на лепшы
няспраўджаны шанец.

Нат не ўявіць,
як над комінам рупіцца дым,
Пуста, журботна,
ды снег без адзінага следу.
Пограб з гумном размаўляе
бязгучна старым,
Іхнія згадкі не так ужо цяжка і ўведаць.

Марны спадзеў —
гаспадар не патрапіць дамоў,
Дзверы не рыпнуць
і печы цяпло не пагоіць.
Толькі алейны партрэт
развярэдзіць наноў —
Лета і дзед каля грушы
ў настылым пакоі...

Хутар, счакай ты зімовую сумную стынь,
Пойдзе парадкам
і квецень у сілу ўбярэцца.
Сонца паджывіць спрадвечную
крэўную плынь,
Радасць вяртання
спатоліць засмяглае сэрца.

## Васіль ДЭБІШ

●

Мне не трэба было зноў вяртацца сюды,
Да халодных, бы глыбіна лёду, мУроў.
Тут і там як ні глянь —
спустошэння сляды.
І жалобныя цені сляпых ліхтароў.

Тут я жыў. Ужо трыста ці болей гадоў.
Як забіты пад Оршай варожай аблогай.
Нат забілі нашчадка, нат сына малога...
Ані рэха, калі я ў скляпенне ўвайшоў.

Цемра. Пыл, нібы прах, над маім
уваходам.
Тут і там, і паўсюль — спусташэння
сляды.
Мне не трэба было зноў вяртацца сюды,
Да зламаных харугваў над мёртвым
народам.

●

*Быў... Ёсць... Буду...*
*У. КАРАТКЕВІЧ*

Разбіты мой каўчэг. І я яго пакінуў.
Мне засціць сонца вочы. А пясок
З’ядае ногі. З кожнаю хвілінай
Цяжэй ісці... Але са мною Бог.

Яшчэ пагорак, і затым лагчына.
Адзін застаўся я. Мяне вядзе
Наперад вера — знаю, не загіне
Народ. Праз ганьбу пройдзе ён і здзек,

Адродзіцца, свае загоіць раны...
І заўтра стануць явай міражы.
Пакрыўджаны няхай і пагарджаны
Народ — ён быў,
ён — ёсць,
ён — будзе жыць.

## ДУХ

Рукой актора ўзводзіць Час на трон
Нас і гуляе намі — знікла Троя.
А Дух — непадуладны часу ён.
І кат памрэ, і стане меч іржою...

Мяняюцца правадыры, як рэчы.
І толькі Дух — ён застаецца ВЕЧНЫМ.

●

Калядньмі прыцемкамі, калі
Віхурамі снег замятае палеткі,
Нябожчыкаў душы лятуць да зямлі —
Мінулых стагоддзяў забытыя сведкі.

Нябачныя ходзяць па хатах яны,
Ды людзі не чуюць іх енкаў, праклёнаў.
І з вечара б’юць аж да рання ў званы,
Ад родных сваіх не пачуўшы імёнаў.

●

Я лесвіцу спляту ажно да неба.
І хмару зацугляю, як каня,
І паплыву туды, дзе цішыня.
І дзе нікому гаварыць не трэба
Пра міласць... Каля лецішчаў і хат.
Як Бог, незразумелы і нябачны.
І будзе строіць кпіны люд няўдзячны:
— Во, паглядзіце, — там паэт, вар’ят.

. . . . . . . . .

Даруй ім Бог. А я ім не суддзя.
Ляці, мой конь, мацней звініце, шпоры...
Як яблыкі, страсаю з неба зоры.

## Анатоль ДЭБІШ

## ЦІ ЗРАЗУМЕЦЬ?

Ці зразумець: куды коціцца поўня
між хмар,
Падае знічка, стаміўшыся ў небе гарэць?
У сэрцы збалелым
кахання апошняга жар —
Ці зразумець?

Ці зразумець: першых красачак
веснія сны,
Сонца праменні,
што душы імкнуцца сагрэць,
Ворага ўсмешку і сябра пагляд ледзяны —
Ці зразумець?

Ці зразумець: сум паэта ля роднай мяжы,
Песню якому ўжо даспяваць не паспець,
І на кладах ставяць свечкі чаму
і крыжы —
Ці зразумець?

У ланцугу хуткаплынных імгненняў і дзён,
Дзе ўсё няіснае,
дзе толькі існая смерць, —
Волю губляю,
да гвалту трапляю ў палон...
Ці зразумець?

Мне ці лістотай кружляць
па-над роднай зямлёй,
Зоркаю ззяць,
ці між хмар перунамі грымець, —
Каб цалаваць твае вусны
і стан мілы твой...
Не зразумець.

## ВЕЧАР

Праменнямі сонца за шаты далёкага бору
чапляецца вечар, і горад,
адкрыты вятрыску,
павольна змаўкае,
настройвае струны сабораў
На песенны лад,
як матуля ў маленстве калыску.

П’яніць цішынёй
і расквечвае вокны сцягамі
агнёў каляровых,
і песціць людзей прахалодай,
і зоркі-вяснянкі запальвае над купаламі,
каб ім не было ані ліку на свеце, ні зводу.

Па вуліцы крочу... Пра вёску,
пра дом — мае мары,
дзе спелаю яблыняй туліцца вечар
да плоту...
Званы загулі. І ляціць аж да неба,
за хмары,
самотная песня —
пачатку няма таму лёту.

## КАТОЎНЯ

Крывавыя ланцугі рве маўклівая цішыня.
Здушаны вяроўкаю крык
віецца між мураваных сцен
У пошуку пятага кута,
што ўзведзены з чалавечых целаў.
МЯНЕ ТАМ НЯМА.
Там застаўся мой позірк, белаю плямаю
сонца высвечаны на кратах.
Там засталася мая душа,
якая штохвілю сцякае слязьмі
ў бяздоннае рыштаванне часу.
Там засталася мая памяць —
чорная і халодная, як лёд, —
прыкаваная сталёвым ланцугом да слізкай
падлогі —
слізкай ад крыві, нянавісці і маны.
МЯНЕ ТАМ НЯМА.
ДЫ ЯНА — УВА МНЕ.

●

Зайсці ў пакой зняможаным і хворым,
Акінуць зрокам столь і ложак,
над каторым
Вісіць ЯЕ партрэт, затым —
дыван, падлогу...
Зірнуць на пальцы рук...
і не сказаць нічога.



Пераклады

*Народ, нацыя, Украіна — трыадзінае ядро паэзіі Міколы Вінграноўскага, асяродак, вакол якога разгортваецца ўсё жыццё яго лірычнага героя. Выпешчанае ім слова заўсёды шчырае, нечаканае, адметнае. У гэтым годзе выдавецтва "Мастацкая літаратура" плануе выдаць кнігу вершаў Міколы Вінграноўскага "Украінскі прэлюд", перакладзеных мною. Два з іх — "Ноч Івана Багуна" (пра героя вызваленчай вайны ўкраінскага народа, расстралянага палякамі ў 1664 годзе) і "Уночы, апоўначы, ціха..." — прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа". Гэтыя вершы, як мне здаецца, актуальныя і сёння.*

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

## Мікола ВІНГРАНОЎСКІ

# НОЧ ІВАНА БАГУНА

Баліш?
Балі ж!
Балі,
Бо хлынуў крык
Ад можа і да можа Украінаю,
І панскі перакошаны язык
Хрыпіць над ёю стомленаю слінаю.
І меч гарыць над грываю каня,
Крывёю з горла паля абгарэла,
Там рэбры на круках, дзе воля пела,
Там чырванеюць зграі варання.
Ні шэлесту, ні дыму з дымароў,
Скуголіць чэрапу вятрыска ў вуха.
Труху людскую круціць завіруха
І злых ачалавечвае звяроў.

Цямрэча здрадлівая — тупу-тупу —
Бязнебная — татары дзе?! — прыйшла.
Шыкуе смерць — не спіце! —
труп па трупу,
Рыдаюць коні, сцелецца імгла.
Заснулі шаблі, ядры захраплі.
Храпе і стома, цмокае губамі,
І хмара рэжацца крывавымі рагамі
Ў бязнебным небе чорнымі шляхамі,
І ціша спіць, і вецце, і вятры.
Дзягцяркі спяць і круглa спяць калёсы,
А кулі сэрцы і галовы сняць.
Напэўна, толькі сорам даўганосы
І ганьба даўгацелая не спяць.
О ганьба, ганьба! Ты вісіш над намі!
Мы позірк твой адвесці не змаглі.
Ты нашымі казацкімі касцямі
Ў зямлі пратарахціш і па зямлі.

Магіл няма, магілы паўцякалі.
Уцёк Дняпро — цячэ адна вада.
Нябёсы воўчыя над воўчымі вякамі
Ідуць сваёй хадой — журботная хада.

Бадзяецца памазаннікам боскім
Паўпраўда, паўсвабода, паўжыццё.
І за народам згорбленым ды босым
Цікуюць немата і небыццё.
З нажоў і душ, дзе гола і дзе квола,
З асепленай слязамі слепаты
Ўцякае воля, дух яе і слова.
І трубіць рабства ў рог свой залаты.
Нідзе нікога. Праўда на пагорку
Ў траве ляжыць, вылізваючы кроў,
І сэрца мочыць у гарэлцы морду,
І душыць душы здрадная любоў.
Пустэча скрозь. Чартапалоху вочы
Цяжкімі пчоламі, згасаючы, гудуць.
Стрыжэ вушамі конь татарскі ночы,
Маладзікі сярпамі ночы жнуць.
Такога, Божа, больш не дай нікому,
Як гэтаму народу маладому!..

Ой не дай, не дай,
А дасі — забі.
Пакарай яго, загубі,
Сілай дум святых у краях усіх
Пакарай яго, загубі,
Каб не знаў пакут і не плакаў так
Мой народ-казак...

...Ні слёз, ні клятваў, ні калень,
А гонар з горам танкастанным.
Акно ды голля шалясцень,
Ды ветру плач беспераcтанны.
Што, лістапад, было б, скажы,
Калі б ты раптам схамянуўся
І да пачатку зноў вярнуўся,
Што б ты рабіў і як бы жыў?
Што б ты рабіў?
...Пад ветру свіст
Глянь лепей, як імгла сутуліцца,
Як лістападны мокры ліст
Да шыбкі ў кроплях пыскай туліцца.
Як жыў бы ты? Вось так бы жыў!
Пакінь! І будзь удзячны Богу!
Срабрысты ліст масліны-лоху,
Цёмна-зялёны ліст ажын,
Асіны ліст срабрыста-чорны
І дуба-неліня — літы,
І ліст акацыі, як човен,
І сосен вожыкі-лісты —
Усё асыплецца... — растане
У ім і твой апошні дзень...
Ні слёз, ні клятваў, ні калень,
А гонар з горам танкастанным...

Вось так бы жыў. І за плячыма
Насіў бы торбу іншых ран.
Твая шынкарская Ўкраіна
І смертаносны ятаган
Жылі б і без цябе як трэба...
А лістапад з зямлі да неба
І голля за акном капкан...

Што бачыш ты? За белым сненнем
Ты бачыш горы, стэп і шлях,
У кроплях шчокі на шчаках
І абарваны стогн трымценнем.

Час спадзяванняў развітальных!
Мы тут. Мы ёсць. Мы — ўсе.
Мы — гурт.
Яднаймася! Мы самі грунт
Падзей наступных, вырашальных.

Мы йдзём і ведаем куды,
Як ночы ўслед ідуць за днямі.
Сцяг Украіны малады
Крычыць і горбіцца над намі.
Я веру толькі ў Украіну.
Яна мой бог і правадыр.
У волю веру, веру ў мір.
Я не памру, хоць і загіну.

Мы з вамі людзі або не?
Ці мы рабы баршчу і сала?
Нас воля наша засмактала —
Нас ды ў радзімай старане.
Да бою! Бо не будзе бою.
Лянота пераможа вас.
Патухла лета — свет не згас,
І я з табою, як з сабою...

Між гармат і вазоў, ядзер і казаноў
Ад Дуная, Днястра і да Дону
На плячах жабракоў,
на плячах казакоў
Дамавіна ідзе дадому.
То мяне нясуць і каня вядуць,
Конь галоўку схіляе.
Вецер з Вінніцы дзьме, жоўтую каламуць
Спелых стэпаў люляе.

●

Уночы, апаўночы, ціха
Да слоў маіх хтось падышоў,
Глядзець на іх пачаў і дыхаць.
Так дыхае, адчуў я, ліха,
Так ходзіць ліха — Час прыйшоў.

Прыйшоў і стаў. І ўжо нікуды
Не зможаш даць ты лататы.
Не знікнеш, не зматаеш вуды,
Не зменіш сэрца. Ціха ўсюды.
Нікога ў свеце — Час і ты.

Прыйшоў і стаў. І я убачыў,
Што ў позірку яго сухім
Ніхто не любіць і не плача,
Ніхто не бегае, не скача, —
У ім — аднолькава усім.

Усім аднолькава: жывучым
І тым, што рана адцвілі,
Азёрам і гаям гаючым,
Смяротным словам, неўміручым,
Нікому ганьбы і хвалы...

І я спытаў: што хочаш, Часе?
Я ўсё аддам табе па край —
Юнацтва, маладосці чашу,
Свой дзень наступны і ўчарашні,
Майго ты слова не чапай!

Не зачапі яго, малога,
Не бі яго і не палі,
Бо перад ім яшчэ дарога,
Бо перад ім яшчэ так многа,
Бо з ім яшчэ мы не жылі!

Усё нам з ім яшчэ — світанне:
І слёзы самых першых сноў,
І першы снег усіх снягоў,
І першы бераг з берагоў,
З ім і апошняе каханне!

Залевы позірк незласлівы,
Бялюткі бэз, валун сівы,
Салодкі сон асы і слівы,
І цёхкат сэрца палахлівы,
І плач у прыцемку савы.

Нам з ім усё яшчэ — трывога,
Нам з ім яшчэ — не адбыло.
Яшчэ ўсё радасна і доўга,
Яшчэ нам з ім — як перад Богам
Кажу табе — не перайшло!..

Яшчэ хто хочаш абдымае
У неадменнасці сваёй
І слова сэрцам напаўняе,
І слова болей не вяртае...
Маё спагадай удастой!...

Ты ж у сваёй імклівай плыні
Нікому спуску не даеш —
Ані дзіцяці, ні краіне,
Ні жонцы, ні сівой жанчыне —
Бяссмертна сееш, смертна жнеш!

Ты раўнадушнымі вачыма
Ідзеш праз вечнасць і праз міг.
Густая цемра за плячыма,
Імглой пакрыты далячыні —
Ты не жахаешся ад іх.

Табе — салодка ці салёна,
Няма ці ёсць — дарэмна ўсё.
А тут — узнёсла і шаўкова
Трапечацца і б'ецца слова
Майго народу і маё.

Яно з трывогі і надзеі,
Прабіцца праз крыжы і прах,
Праз пыл вякоў, усё ў слязах,
Яно змагло і палымнее
Ў мяне сягоння на губах!..

Уночы, апаўночы ціха
Да слоў маіх хтось падышоў,
Глядзець на іх пачаў і дыхаць.
Так дыхае, адчуў я, ліха,
Так ходзіць ліха — Час прыйшоў.

---

*Некалькі гадоў я працаваў над кнігай перакладаў вершаў рускіх паэтаў, якія нарадзіліся або жылі і жывуць у Беларусі. У зборнік (умоўная назва яго "Вечнасць і імгненне") узяў па некалькі вершаў кожнага з дваццаці пяці аўтараў.*

*Прапаную чытачам вершы некаторых рускіх паэтаў у сваім перакладзе.*

**Віктар ШЫМУК**

## Іван БУРСАЎ

●

Усё было да нас:
бліскчэў на сонцы снег,
і май квітнеў,
і кветак бель хмяліла...
Усё было не раз...
На наш кароткі век
Красы і весялосці
Нам хапіла.

Як весела вада
нясе свой
вечны бег.
Мінула зноўку ноч,
птушыны спеў нясецца...
Хай гэта прыгажосць
і ў ваш далёкі век
ў мільёнах добрых воч
шчасліва
усміхнецца.

## Навум КІСЛІК

●

Адмяло на дварэ, адгудзела,
дровы ўсе дагарэлі датла,
і зіма ўжо нарэшце прайшла,
і душа мая не зачарсцвела.

Яна стала цяплом даражыць,
як бяроза у снежных сумётах,
хоць ёй цяжка было і маркотна —
ды былое нашто варушыць.

Першы гром прагрымеў і замоўк,
першы дождж адзвінеў на сутлінку,
снег апошні знікае з лагчынкі,
пакідае на дне халадок.

## Фёдар ЯФІМАЎ

# ПАМЯЦЬ НЕ ДРЭМЛЕ

Заўжды прачынаюся позна,
бо позна я засынаю,
таму, што на дне цішыні
радок і гучны, і шчыры,
толькі дваццаць другога чэрвеня —
даўно за сабой прыкмячаю —
кожны год прачынаюся рана,
заўжды без пяці чатыры.

## Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

# ПЛЫВУЧЫ ПА ДНЯПРЫ...

— У каго заказаць вясло?
Голас вадой знясло.
Чую з парома крык:
— Жыў тут адзін стары.
У труне яго рамяство.
— Хто мне сплеце карзіну?
Рэха ляціць у даліну.
Вецер нясе мне ўслед:
— Жыў пад гарою дзед.
Паехаў у горад, да сына.

Цётцы з вядром гукаю:
— Грыбы для засолкі маю,
Да бондара мне б зайсці.
— Хлопча. Сама шукаю.
Бондара не знайсці...

## Аляксандр ДРАКАХРУСТ

●

Ён сніцца мне ужо каторы год —
Той мост над рэчкай,
столькі раз пракляты...
Пяхота адышла,
Адбухалі гарматы,
І бежанцы пайшлі за паварот.
Пара!
А ён, халера, не гарыць.
Палю запалкі. Лью бензін я з бака.
Пыл на шашы —
ідуць яны ў атаку.
А мост шыпіць — і толькі.
Хоць памры!

Яны ў кувеце...
Я — за пісталет.
Але і з ім я безабаронны,
Агонь патух, прапаў яго і след
І скончыліся у мяне патроны.

...Я прачынаюся:
Трывога ў сэрцы зноў,
О, колькі у жыцці я не спаліў мастоў!

## Святлана ЯЎСЕЕВА

# ДАВЕР

Ўсё не старэю. Дзе прычына?
Садружнасць — гэта мой пароль.
Кагосьці радасці вучыла,
Дзяліла з кімсьці хлеб і соль.

Давер — і маладосць і сіла!
Не давяраць — не быць жывой.
Жыццё з кім-небудзь я дзяліла,
І хтось жыццё дзяліў са мной.

## Эдуард СКОБЕЛЕЎ

●

Як зімнія карункі на акне
іскрацца прыгажосцю нежывою,
так лепшае ў табе або ўва мне
не выказаць радком застылым, кволым.

Так боль і памяць нам не раз'яднаць.
І — слоў няма, каб увіць іх разам.
Жыцця глыбіні недаступны фразам,
іх роля — праслаўляць ці ганьбаваць...

Душа лунае над хмурынкай слоў.
І моцная не словам — азарэннем,
злучаючы і вечнасць, і імгненне,
жывую сутнасць ўсіх зямных асноў...

---

## Афанасій ФЕТ

●

Туманы нахлынулі з нетраў,
Маё ахінулі сяло;
Іх сонца сагрэла, а ветрам
Па дальніх краях разнясло;

Абрыдне бадзяцца ў абшарах
Над сушай, прасторам марскім —
У родны край цягнецца хмара,
Каб толькі паплакаць над ім.

●

Бура на небе вячэрнім,
Мора сярдзітага шум —
Бура на моры і думы,
Многа пакутлівых дум —
Бура на моры і думы,
Хор нарастаючых дум —
Чорная хмара за хмарай,
Мора сярдзітага шум.

●

Вабная карціна,
Родная мне ты:
Срэбная раўніна,
Месяц залаты,

Неба шлях высокі,
І бліскучы снег,
І саней далёкіх
Адзінокі бег.

●

Я доўга стаяў нерухома,
У зоркі ўглядаўся душой, —
Таемная нейкая сувязь
Узнікла між імі і мной.

Я думаў... не помню, што думаў;
Я слухаў нячутны той хор,
І зоркі ціхенька дрыжэлі,
І зоркі люблю я з тых пор.

*Пераклад Васіля ЖУКОВІЧА*

Знаёмства

# АЛЕН: "Я НЕ ХАЧУ, КАБ БЕЛАРУСЫ ВЫМЕРЛІ, ЯК МАМАНТЫ"

***"Першыя два фестывалі нацыянальнай песні і паэзіі далі моцных спевакоў, і толькі трэці нарадзіў зорку". Гэтымі словамі Эдуарда Ханка, прамоўленымі з фестывальнай сцэны, пачалося пераможнае шэсце Алена — Сяргея Хамякова з Наваполацка — па абшарах айчыннай эстрады.***

***Атрымаўшы Гран-пры акурат у дзень свайго нараджэння, Сяргей раздаў традыцыйныя аўтографы і вярнуўся дадому — працаваць, рыхтавацца да "Славянскага базару", "Юрмалы-95".***

***"Чаму ён?" — не пагадзілася з поспехам канкурэнта адна з дыпламантак конкурсу, пакінуўшы красамоўны надпіс на прывезенай у Полацк фестывальнай афішы.***

***Сяргей перамог без усялякіх пратэкцый пры аднадушнай падтрымцы журы. Значыць, ёсць у ім нешта, што "падкупіла" высокую камісію.***

***Алена можна не прымаць, крытыкаваць, можна адмовіць яму ў чым заўгодна, але толькі не ў выразнай самабытнасці. Ён не падобны на іншых ні сцэнічным іміджам, ні думкамі, закладзенымі ў тэксты ўласных песень. Ці не ўпершыню сярод маладых салістаў беларускай эстрады з'явіўся свядомы носьбіт беларускай ідэі, беларускасць якога арганічная, адкрытая, зразумелая. Ален вольна гаворыць, думае і піша на мове сваіх продкаў, і тое, што ён кажа, прываблівае маладой заўзятасцю, сучаснасцю, аптымізмам.***

***Прапануем вашай увазе інтэрв'ю з пераможцам трэцяга Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі Сяргеем Хамяковым — Аленам.***

**— Віншую з поспехам. Ці стаў фестываль пераломнаю кропкаю ў тваім лёсе?**

— Ну вядома, стаў. Па-першае, я нават не думаў, што ўсё так будзе, ехаў, не торгаўся. Але там у душы паднялася як бы нейкая бура. Там зусім іншы маштаб размоў, разваг. І сама машына Фінберга, якая працуе, як гадзіннік, — гэта проста атас!

Я ехаў на фестываль, як на працу. І поспех стаў вынікам вялікай працы ўсяго нашага калектыву. Андрэя Мітрошкіна, кампазітара і аранжыроўшчыка, танцораў Стася Мінчанкі і Віктара Шадуркі, Сяргея Малалеткіна, які стаяў ля вытокаў праекта нашага прадзюсерскага цэнтра "Беларускае шоу", і ўсіх тых людзей, што падтрымлівалі мяне маральна або фінансава.

**— Калі крытычна, ты лічыш, што быў лепшым за ўсіх канкурсантаў?**

— Па-першае, я не бачыў удзельнікаў, потым праглядаў відэазапіс. І скажу, што іншыя зрабілі значна больш памылак, і журы, відаць, заўважыла гэта. Пачынаючы з тэхнічных і канчаючы элементарным недацягваннем нот.

**— Для далейшае працы табе дастаткова адукацыі, якую маеш?**

— Няма ў мяне музычнай адукацыі.

**— І нотаў не ведаеш?**

— Не-а. Нотнай граматы, скажам так. Гэтыя мелодыі я проста чую, памятаю ўсе, я іх напяваю пад гітару і дапрацоўваю. Андрэй потым робіць аранжыроўкі. Тэкст і музыка ў мяне неяк нараджаюцца разам, як цэлае. Я іх не раздзяляў бы.

Канешне, трэба было б нечаму павучыцца. Але я лічу, што падыход павінен быць прафесійным. Аранжыроўшчык — аранжыраваць, паэт — пісаць вершы і г. д. Не лічу сябе геніяльным кампазітарам, але шмат хто так піша мелодыі, і я не бачу ў гэтым нічога дрэннага. А тэксты хай ацэняць паэты. Я баюся даваць сабе ацэнкі, бо дастаткова супярэчлівы чалавек. Толькі адно магу сказаць пэўна: я пайду па сваёй сцежцы роўненька і толькі наперад.

**— А куды ты ідзеш?**

— Як і ўсе людзі — да Бога, Ісуса Хрыста. А што Ён падрыхтуе мне на гэтай сцяжыне — толькі Ён ведае. Мяне цікавіць сам шлях. У адной з апошніх песень ёсць такія словы:

**Ці то дзень, ці то ноч.**
**Ці туман, ці то дым —**
**Басанож ідзе малады пілігрым...**

**— Значыць, ты проста ідзеш, не загадваеш, не ставіш задач дасягнуць пэўных вяршыняў, ці стаць, скажам, "зоркаю"?**

— Ну, планаваць стаць "зоркаю" — гэта абсурдна, бо калісьці ўжо было сказана: "Ісус Хрыстос — суперзорка". А ў нас тут на зямлі... ну што будзе дадзена звыш, тым і буду. Што загадваць... Я хачу працаваць, хацеў бы мець тое, што патрэбна для працы, і дабіцца поспеху ў слухачоў. Можа, калі-небудзь стану экстрасенсам ці мастаком — я не ведаю, гэта творчы лёс. Больш за ўсё на свеце я люблю волю.

**— А не любіш?**

— Дыктату, прымусу, абавязалаўкі. Гэта не адмаўляе ўнутранай дысцыпліны. І гэта ўсё ў Біблії напісана.

**— Значыць, у цябе няма эйфарыі ад поспеху?**

— Эйфарыя бывае ў дурняў. Я сябе да гэтай групы нашага грамадства не адношу.

**— На тваю ўласную думку, у чым твая адметнасць?**

— Я люблю сцэну і тых людзей, якія сядзяць у зале. Я іх паважаю, спяваю для іх, у адрозненне ад усіх тых, хто любіць сябе на сцэне, а потым усё астатняе. Гэтую хваробу лёгка заўважыць. Відаць, члены журы гэта і прыкмецілі.

**— Ты ўпэўнены, што вытрымаеш выпрабаванне славаю, што застрахаваны ад "зоркавае" хваробы?**

— Справа ў тым, што я ёю перахварэў у 91-м годзе, калі першы раз патрапіў на фестываль "Лідэр-91" і стаў дыпламантам.

**— Калі можна, распавядзі, як прайшла твая "хвароба"?**

— Спачатку гэта быў кайф ад поспеху, потым разуменне, што нешта не так. Потым — пошукі нечага свайго, потым — вялікая дэпрэсія. А потым было пакаянне і нараджэнне зусім іншага чалавека.

**— Па уплывам каго, чаго?**

— Нікога і нічога. Сяржук Сокалаў з'ехаў, калі я толькі пачаў займацца музыкай і паэзіяй. Так, я лічу яго сваім настаўнікам, і любоў да радзімы, да нашай мовы, я атрымаў пасля маці толькі ад Сержука. Але ён лічыў, што я абраў не той напрамак, распрацоўваў стыль, які ён раіў не чапаць.

Потым, калі ў мяне была вялікая дэпрэсія, літаб'яднанне "Крыніцы", канешне, зноў выцягнула мяне з гэтага стану і я пачаў пісаць прынцыпова новыя песні, якія мала яшчэ хто чуў. Я назваў бы гэта — тэкставы рок, сэнсавыя песні. Тыя ж "Яблыкі", "Я прачнуўся". Іх мала паказвалі. Зараз эпоха тэхнамузыкі, і нават сам Мік Джагер сказаў, што калі б прыйшлося пачынаць спачатку, ён пачаў бы граць "тэхна".

Зыходзячы з усяго гэтага, я і дапрацаваў сваю музычную канцэпцыю, свой стыль, які назваў "Беларускае кантры". Спрасаваў там некалькі стыляў, а што атрымалася — людзі могуць бачыць. Думаю, гэта тое, што Бог хацеў бы сказаць па-беларуску... Але іду па двух накірунках: адзін больш класічны, другі тыповы для больш лёгкага ўспрымання.

**— У чым сутнасць тваёй канцэпцыі?**

— Зрабіць беларускую мову такой, якой бачу яе я: мяккай, мілагучнай, зразумелай усім людзям славянскага паходжання, украінцам, расіянам, беларусам. Я хачу, каб людзі, народы разумеліся. І я не хацеў бы, каб беларусы сталі мамантамі, якія вымруць. Я не хачу быць накшталт індзейца ў рэзервацыі. Я хацеў бы, каб усе былі роўнымі і ўсё было неяк гарманічна.

**— Як ты думаеш, чаму моладзь не ідзе ў беларушчыну, чаму тваіх аднагодкаў не цікавяць праблемы, якія хвалююць цябе?**

— Гэта хвароба абыякавасці, нявер'я, якая ахапіла ўсю краіну.

**— А як ты прыйшоў да беларушчыны?**

— Мне проста захацелася пісаць па-беларуску. "Крыніцы", вядома, зрабілі ўплыў. Але ж я хацеў сам пісаць! Пасля таго, як прайшоў сіндром абыякавасці, мне было ўжо не ўсё роўна, што адбываецца ў нашай краіне. І я вырашыў: ну хто, калі не я? Калі б кожны чалавек так сказаў і жыў бы па такіх прынцыпах — у нас была б магутная краіна.

Але не хапала яшчэ нейкага кампанента. Тады прыйшла вера. Мы падышлі да гэтага з Аляксандрам Домічавым, маім добрым сябрам. І калі я пакаяўся — жыццё стала другім.

Пакаянне — гэта адмаўленне ад таго, што ты ў гэтым свеце робіш усё сам, і прызнанне Хрыста як суперзоркі, якой ты цалкам давяраеш, і якая можа прывесці цябе да вышыні. Менавіта адтуль, зверху, я бяру свае вершы. Сам чалавек на зямлі ніхто. І калі ты просіш, Бог дасць табе ўсё: добрых сяброў, класнага дырэктара Полацкага гарадскога Палаца культуры, якога я цяпер маю ў асобе Аляксандра Рагачова, ён дасць табе магчымасць працаваць.

**— А як ты думаеш, чаму Бог даў такую долю Беларусі?**

— Магу сказаць толькі адно: Ён проста яшчэ нічога не даў Беларусі. Мабыць, у Яго былі іншыя праблемы. А мабыць — людзі мала верылі. Гардыня заўсёды прыводзіла чалавецтва ў тупік.

Думаю, зараз на Беларусі ўсё ж адбываюцца буйныя працэсы, і калі-небудзь людзі збяруцца, і замест таго, каб дзяліцца, памоляцца ўсе разам за Беларусь, і тады Бог дасць ім шчасця. А пакуль — значыць, дрэнна верылі, не так рабілі, не выконвалі запаветаў. Самі адракліся ад свайго.

**— У сітуацыі адкату беларушчыны ты не адчуваеш адчаю ці разгубленасці?**

— Я не панікёр. Не бачу тых праблем, якія людзі самі сабе ствараюць. Трэба працаваць у любой сітуацыі, і ў сённяшняй таксама. Адраджэнне прыходзіць разам з людзьмі. Напэўна, мы мала працавалі, зганілі святую ідэю і згубілі Бога, які проста перастаў нам дапамагаць. І прыйшло пакаранне. Можа, за тыя безадказныя акцыі, якія праводзіліся, за словы, якія не выконваліся, і за шмат што іншае. У кожнай нацыі — свая Галгофа. Такая мая думка.

**— І як ты глядзіш у будучыню?**

— Я заўсёды гляджу аптымістычна. Народ выжыве, калі народзіць новыя здаровыя сілы. А я асабіста хацеў бы данесці тое, што мне дадзена па маім нараджэнні, да людзей. Сказаць тое, што павінен сказаць па волі Таго, хто стварыў гэты свет. Нельга выказаць, што менавіта, бо гэта гаворыцца кожнаму чалавеку праз сэрца. Я ўсё кажу тэкстамі сваіх песняў. І я проста буду выконваць свой абавязак. Кожны дзень я малюся за тых людзей, якія побач са мною, і думаю, што наша зорка будзе ўзыходзіць вышэй і вышэй. Зорка нашай ідэі.

**Інтэрв'ю падрыхтавала**
**Ларыса МАЛАШЭНЯ**

г. Наваполацк

Памяць

# ПРАЎДА ПРА ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ

Кожная чалавечая асоба — непаўторны свет і страта яе — рана для ўсяго чалавецтва. А што казаць, калі гінуць мільёны людзей?.. Велізарныя людскія страты ў Савецкім Саюзе (у тым ліку і ў Беларусі) у часы бальшавіцкага генацыду і Другой сусветнай вайны дагэтуль вярэдзяць нашы душы, попел ахвяр стукае ў нашыя сэрцы... Захаваць памяць аб іх — святы абавязак жывых, нашчадкаў загінуўшых. Такая памяць павінна служыць будучыні, каб зноў не дапусціць ні генацыду, ні вайны.

Многія краіны (Японія, ЗША і інш.)досыць дакладна падлічылі страты сваіх людзей у вайну, а мы да гэтага часу вядзём такія падлікі з "дакладнасцю" да мільёнаў: пры Сталіне фігуравала лічба 7 мільёнаў, пры Хрушчове — 20, зараз — 27, некаторыя даследчыкі лічаць, што загінула значна больш.

Апошнім часам намаганнямі энтузіястаў адкрываюцца новыя імёны загінуўшых салдат на палях бітваў Вялікай Айчыннай. Але гэтая справа павінна стаць па-сапраўднаму справай дзяржаўнай.

Калі па ўшанаванні памяці, нармальным пахаванні ахвяр вайны хоць нешта робіцца, дык пошукі імёнаў і асабліва месц знішчэння і пахавання нявінных ахвяр сталінскага генацыду ў Беларусі амаль зусім спыніліся. У гэтым напрамку добры прыклад паказваюць нашы суседзі са Смаленскай вобласці, аб чым апавядае М. Ількевіч — падпалкоўнік УФСБ Расіі па Смаленскай вобласці, які даслаў мне свой артыкул "Правда о дне вчерашнем: тайн становится все меньше" ("Рабочий путь", N 76 за 1995 г.). Дарэчы, Мікалай Мікалаевіч Ількевіч — наш зямляк, узначальвае Цэнтр грамадскіх сувязей УФСБ, вельмі многа зрабіў па раскрыцці спраў былых вязняў ГУЛАГа, у тым ліку вядомых людзей Расіі і Беларусі — А. Македонава, В. Мураўёва, В. Ластоўскага, М. Гарэцкага і інш., на гэтую тэму мае шмат публікацый у розных газетах і часопісах Смаленска і Беларусі.

У артыкуле паведамляецца, што хутка будзе завершана вялікая праца па складанні поўнага спісу незаконна рэпрэсіраваных грамадзян на тэрыторыі Смаленскай вобласці ў 1917—50-ых гг. У гэты час праводзіліся масавыя расстрэлы грамадзян, але акты аб іх выкананні захаваліся толькі за перыяд з 1928 па 1938 гг. Дакументальна ўстаноўлена, што расстрэлы праводзіліся ў Смаленску, Вязьме, Веліжы, Рослаўлі, Сухінічах, Клінцах, Бранску. Апроч таго, па рашэнні пазасудовых органаў расстрэлы грамадзян, якія былі арыштаваны дарожна-транспартным аддзелам НКУС СССР, праводзіліся ў Мінску, Полацку, Віцебску, Барысаве, Оршы. Усяго за гэтае дзесяцігоддзе па Смаленскай вобласці (у сучасных межах) было расстраляна 9962 чалавекі.

У следчых справах месца расстрэлу і месца пахавання амаль ніколі не адзначалася. Аднак удалося высветліць, што расстрэлы звычайна праводзіліся ў падвалах турмаў, але знойдзены і іншыя месцы, дзе праводзіліся падобныя акцыі, напрыклад, Сямёнаўская лясная дача за 8 км ад Веліжа. Знайшліся і некаторыя мясціны тайных пахаванняў расстраляных (урочышча "Козьі Горы" за 15 км ад Смаленска, брацкія магілы ў Смаленску на тэрыторыі вайсковай часці).

Калі адзначалася стагоддзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, у Вязьме, недалёка ад мясцовай турмы, быў пастаўлены помнік, на якім напісана: "Предположительно на этом месте, где похоронены сотни известных и неизвестных людей, жертв репрессий, покоится прах белорусского писателя, ученого и педагога Максима Ивановича Горецкого".

М. Ількевіч адзначае, што ў Смаленску знойдзены дакументы, у якіх указаны месцы пахаванняў ахвяр сталінскага генацыду ў Беларусі: "...14 км ад Віцебска па Смаленскай шашы ад дарогі ўлева на 1500 м у лесе" і "на 25 км ад Віцебска па Гарадоцкай шашы ад дарогі направа на 3 км у лесе".

У Беларусі адзіным афіцыйна прызнаным месцам знішчэння ахвяр сталінскага рэжыму лічацца Курапаты ў Мінску (ды і гэты факт некаторымі прыхільнікамі бальшавізму адвяргаецца). Стаіць яшчэ невялікі крыж каля Чэрвеня на месцы, дзе расстраляны рэпрэсіраваныя літоўцы і беларусы. Вось і ўсё. А, між тым, шэрагу публікацый вядома, што такія "Курапаты" былі амаль каля кожнага вялікага горада Беларусі. Пакуль жывыя сведкі, ёсць дакументы, трэба вызначыць усе гэтыя жахлівыя месцы і паставіць помнікі нявінным ахвярам.

Беларусь асабліва багатая на помнікі загінуўшым у вайне — і гэта добра, што паплечнікі і нашчадкі не забылі тых, хто выратаваў іх ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Загінуць ад кулі ворага, абараняючы сваю зямлю, сваю Бацькаўшчыну, цяжка, але пачэсна. А вось быць расстраляным нявіннаму ад сваіх "сваімі" суграмадзянамі — жахліва. А такіх у Беларусі таксама тысячы і тысячы. Іх родныя даўно выплакалі ўсе слёзы. Яны патрабуюць не ціхай (зноў амаль сакрэтнай) рэабілітацыі, а адкрытага шырокага прызнання іх невінаватасці, светлай незабыўнай памяці.

Калі мы хочам пабудаваць цывілізаваную дэмакратычную дзяржаву, мы павінны адрачыся ад таталітарнай сістэмы і яе метадаў, якія прывялі да гібелі мільёны нявінных і нярэдка найбольш таленавітых і адданых краіне людзей.

Мы не павінны застацца абыякавымі да раскрыцця праўды мінулага для ўсталявання сучаснай і будучай справядлівасці. Пакуль улады і народ беларускі адкрыта і шырока не ўшануюць памяць ахвяр таталітарызму, не супакояць іх душы шчырым прызнаннем іх невінаватасці, датуль не будзе спакою, шчасця на Зямлі нашай.

**Радзім ГАРЭЦКІ**

# КАЛЯНДАР ЛІПЕНЯ

**6 ліпеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Пятра ГЛЕБКІ (1905—1969). Першыя вершы апублікаваў у 1925 годзе. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі, у тым ліку для дзяцей, пісаў драматургічныя творы, выступаў з нарысамі, літаратурна-крытычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі. Працаваў у галіне перакладу. Збор твораў П. Глебкі ў чатырох тамах выйшаў у 1984—1986 гадах.**

●

**14 ліпеня споўнілася б 75 гадоў Алесю АСТАПЕНКУ (1920—1970). У 1940 годзе выступіў з рэцэнзіямі і артыкуламі. Першы верш апублікаваў у 1942 годзе. Аўтар кніг паэзіі "Выпрабаванне" (1947), "Дзень маёй Радзімы" (1952), "Выбранае" (1957), "Сэрца спявае" (1960). Займаўся перакладам.**

●

**15 ліпеня споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра ДУБОЎКІ (1900—1976). Першы верш апублікаваў у 1921 годзе ў газеце "Савецкая Беларусь". У 1930 годзе быў рэпрэсіраваны. Пасля рэабілітацыі ў 1957 годзе жыў у Маскве. Вядомы не толькі як паэт, а і як аўтар аповесцей для дзяцей "Жоўтая акацыя" (1967), "Ганна Алелька" (1969), "Як Алік у тайзе заблудзіўся" (1974) і кнігі апавяданняў-успамінаў "Палёсткі" (1973). Выступаў з крытычнымі, публіцыстычнымі і навуковымі артыкуламі па пытаннях беларускай мовы, літаратуры, культуры. Вядомы і як перакладчык.**

●

**20 ліпеня споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння Гальяша ЛЕЎЧЫКА (1880—1944). Друкавацца пачаў у 1908 годзе ў газеце "Наша Ніва". Выдаў зборнік вершаў "Чыжык беларускі" (Вільня, 1912). Друкаваўся ў заходнебеларускіх газетах і часопісах. У 1980 годзе выйшла кніга выбраных твораў "Доля і хлеб".**

●

**21 ліпеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Янкі БОБРЫКА (1905—1942). З вершамі выступіў у 1924 годзе. Праз два гады разам з А. Звонакам і Я. Туміловічам выдаў зборнік вершаў "Пунсовае ранне". У 1930 годзе часопіс "Маладняк" надрукаваў яго паэму "Галіна". Асобныя вершы змешчаны ў зборніку "Мы іх не забудзем" (1949). Выступаў у перыёдыцы з апавяданнямі і нарысамі. Загінуў у блакадным Ленінградзе.**

●

**25 ліпеня споўнілася 155 гадоў з дня нараджэння беларускага фалькларыста, этнографа, гісторыка і педагога Юльяна КРАЧКОЎСКАГА (1840—1903). Родам з вёскі Азяты цяперашняга Жабінкаўскага раёна. У 1888—1902 гадах — старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі. Складальнік 16-га і 20-га тамоў, аўтар прадмовы да іх і да 25-га тома "Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі". Напісаў нарыс "Старая Вільня да канца XVII стагоддзя" (1893). Аўтар першай грунтоўнай працы пра радзінны абрад беларусаў, выхаванне дзяцей ("Нарысы быту заходнерускага селяніна", 1869) і фальклорна-этнаграфічнага зборніка "Быт заходнерускага селяніна" (1873), прысвечанага сямейным абрадам беларусаў. У ім змешчана больш за 300 новых фальклорных твораў.**

●

**31 ліпеня — 75 гадоў з дня нараджэння польскага пісьменніка Ігара СІКІРЫЦКАГА (1920—1985). На польскую мову пераклаў асобныя вершы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, У. Жылкі, М. Аўрамчыка. Укладальнік, аўтар прадмовы і перакладчык многіх твораў у зборніку "Выбраныя вершы" М. Танка (1974). Вершы І. Сікірыцкага па-беларуску ўзнаўлялі М. Танк, Н. Гілевіч, Р. Барадулін...**

# У СЕРЫІ "ВЕРНУТЫЯ ІМЁНЫ"

**Выпускаць яе распачало выдавецтва "Навука і тэхніка", а першай кніжкай у ёй стаў нарыс Н. Васілеўскай "Абвінавачваецца ў нацыянал-дэмакратызме". Герой яго — колішні наркам асветы Беларусі А. Баліцкі. Імя гэтага чалавека сёння больш-менш вядома прыхільнікам беларускасці, але аўтар не абмяжоўваецца звесткамі, што ўжо трапілі ў поле зроку даследчыкаў, і ўводзіць у навуковы ўжытак многія дакументальныя матэрыялы ўпершыню. Шмат гаворыцца пра А. Баліцкага як наркама асветы ў 1926—1929 гадах, калі ён прымаў нямала захадаў, каб паспяхова праходзіла беларусізацыя, спрыяў нацыянальнаму Адраджэнню. Безумоўна, не абыдзена ўвагай і тое, як А. Баліцкага зрабілі ворагам народа, дыскрэдытавалі яго як дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, прыцягнулі ў 1930 годзе да суда па сумнавядомай справе "Саюза вызвалення Беларусі". Зыход гэтай справы, як вядома, для А. Баліцкага стаў трагічны: у 1937 годзе яго расстралялі.**

*Адзінакрэўныя браты,*
*Адзінамоўныя паэты,*
*Вяртаецеся з небыцця,*
*Вяртаецеся з нематы,*
*Як злом замглёныя планеты,*
*Што дажылі да адкрыцця...*
*Р. БАРАДУЛІН*

***Уладзімір Дудзіцкі... Імя яшчэ аднаго таленавітага беларускага паэта-эмігранта, амаль невядомага на Бацькаўшчыне, прыйшло да нас з небыцця. Упершыню яго творчая спадчына сабрана і выдадзена ў Нью-Йорку Беларускім інстытутам навукі і мастацтва. Кніга атрымала назву "Напярэймы жаданням". Ідэя стварэння "Збору твораў" паэта належала Зоры і Вітаўту Кіпелям — руплівым збіральнікам скарбаў беларускіх пісьменнікаў на эміграцыі (БІНІМ пад іх кіраўніцтвам ужо выдаў такія ж грунтоўныя зборы Н. Арсенневай, А. Салаўя, А. Саковіч, С. Кавыля). Многія беларусы Амерыкі спрычыніліся да выдання твораў свайго земляка; хто дапамагаў матэрыяльна, хто прымаў непасрэдны ўдзел у гэтай працы. Рыхтавалі, збіралі вершы і прозу У. Дудзіцкага навуковыя супрацоўнікі інстытута Юрэвічы — сп. Лявон (укладальнік, аўтар прадмовы і рэдактар) і яго маці Алена Казіміраўна (бібліяграфія, каментарыі) садзейнічаў у выяўленні публікацый пісьменніка Э. Касінец, рэцэнзаваў рукапіс Я. Запруднік, друкаваў кнігу М. Прускі. Выдадзена яна на высокім мастацкім і выдавецкім узроўні: цудоўная папера, падрабязны навуковы і даведачны апарат, па традыцыі вокладку гэтай серыі беларускіх выданняў выдатна апрацоўвае вядомая мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко. Уступнае слова пра бацьку ад імя дзяцей паэта напісала старэйшая дачка Ганна, у іх з бацькам былі найбольш даверлівыя і духоўна блізкія адносіны. (Усе дзеці і ўнукі У. Дудзіцкага жывуць у ЗША).***

***У гэтым годзе У. Дудзіцкаму споўнілася б 85, ён мог яшчэ жыць, пісаць, калі б не такім складаным, пакутлівым быў шлях паэта і на радзіме, і ў выгнанні.***

# "ШУКАЙЦЕ, ДЗЕЦІ, ВОЛІ"

Паходзіў У. Дудзіцкі (сапраўднае прозвішча — Гуцька) з беднай сялянскай сям'і. Родная вёска Дудзічы, што за 40 кіламетраў ад Мінска, прывольна раскінулася на берагах Пцічы (між іншым, побач з Дудзічамі знаходзяцца Рудзенск, Цітва, Рудкава — мясціны, дзе нарадзіліся М. Чарот, У. Хадыка, С. Баранавых). Бацька памёр рана, пакінуўшы 8 дзяцей, і Уладзімір выхоўваўся пры айчыме. Ён вельмі любіў сваю маці, якая хораша спявала ("Помню ў час вечаровы пела мне маці калісьці — песні пра шчасце і волю..."). Можа, песні маці, прыгажосць родных мясцін, лесу, рэчкі былі той крыніцай, адкуль забруіла яго паэтычнае слова:

**За хваляй хваля усё шпарчэй**
**хінецца, горнецца суладна,**
**і рэчка, Пціч мая, цячэ**
**паволі коцішча да спаду.**
**Абапал вольхі. Медзь ракіт**
**шуміць у звоне лозаў ніцых,**
**і вербы голлем да ракі**
**звісаюць хваль тугіх напіцца...**

*("Кідаў я сеці ў глыб рачную")*

І пазней, праз усё жыццё яму згадвалася: "Хіба шмат такіх вось нашых раніц // ёсць дзе-небудзь у якой краіне? // І раса слязою ногі раніць // і сады цвітуць пад небам сінім...". Ад маленства ён жыў і рос сярод гэтай прыгажосці, упітваў водар і чысціню роднага слова: "Як запаведзь на зломаным вяку // трымаю ў сэрцы матчыну гаворку...".

Пасля сямігодкі паступіў у Мінскі белпедтэхнікум, дзе вучыліся многія будучыя пісьменнікі, а выкладчыкамі былі такія дзеячы нацыянальнай культуры, як У. Ігнатоўскі, Я. Лёсік, Я. Колас. Тут У. Дудзіцкі пачаў выступаць на літаратурных вечарах са сваімі першымі вершамі. Але адсюль пачаліся і яго ганенні — разам з іншымі здольнымі студэнтамі ён быў выключаны з тэхнікума "за контррэвалюцыю". Працаваў, не пакідаючы намераў вучыцца далей. Паступіў, скончыўшы падрыхтоўчыя курсы пры БДУ, у Вышэйшы педінстытут. Але хутка быў арыштаваны і высланы на 3 гады ў Сібір разам з Л. Калюгам, З. Астапенкам, С. Астрэйкам, М. Нікановічам, У. Сядурам і іншымі "нацдэмамі". Пачаліся гулагаўскія этапы, "юнацтва, выпітае ў турме". Вось як піша пра перажытае сам паэт: "Мы сустрэліся ў сівых скляпеннях муроў: нас звёў суровы лёс жыцця, жыцця, якое ішло "от Москвы до самых до окраин". Дажджлівым вечарам, у жаўталістую, рудую восень 1934 года, "сацыялістычная індустрыя" імчала нас у далёкія пусткі Сібіры.

"Труд перевоспитывает человека" — такімі шыльдамі сустрэлі нас драцяныя загароды канцэнтрацыйнага лагера на ўскраіне катаржанскага горада Новасібірска. Седзячы на абтоку гэтага людскага ганьбішча, я пазнаваў непазнанае і глыбей адчуваў малаадчутае Радзімы: красу палёў і шум бору, сівыя туманы і тугу матчыных песняў, сінь азёраў і асалоду любасці да роднае зямлі...

Прайшлі, праміналі гады. Зарубцаваліся раны, але не спляміласся перажытае. Душа беларуса жывучая, не ўмее маўчаць ні ў часіны радасці, ні смутку. Яна спявае і вядзе напярэймы жаданням, а жаданнямі гэтымі ёсць шчырасць і праўда жыцця, ці гэта на Бацькаўшчыне, ці, як суджана ізноў злым лёсам, — на чужыне..."

Пасля сібірскага канцлагера ў Ташкент (па прадпісанні НКВД), дзе прытулкам былі сады і мясцовая чайхана. Цяжка захварэў, што дазволіла вярнуцца на радзіму. Але, як успамінаў пазней паэт, — "ведамыя мне каты з Менскага НКВД загадалі асесці ў Віцебску". Тут У. Дудзіцкі здолеў падрыхтавацца і здаць экстэрнам экзамены за педінстытут, атрымаць дыплом настаўніка. Але дзе ні ўладкоўваўся на працу, адусюль праз некаторы час звальнялі як "ворага народа". Гэта быў самы пік сталінскіх рэпрэсій, і У. Дудзіцкаму цудам удалося пазбегнуць паўторнага арышту — ён прыхоўваўся ў розных месцах Расіі і Беларусі. Толькі ў 1941 годзе рызыкнуў уладкавацца выкладчыкам ветэрынарнага тэхнікума ў Курасоўшчыне, прыгарадзе Мінска.

Калі пачалася вайна, У. Дудзіцкі, як і многія беларусы, не прымаючы ўлады ні Гітлера, ні Сталіна, спадзяваўся, што Беларусь стане незалежнай краінай, аднак не меў ніякіх ілюзій адносна таго, што гэта здарыцца з дапамогай немцаў. Наадварот, звяртаючыся да тэмы вайны, ён пісаў пра фашыстаў, якія "учора за спінай нашаю // нашай смерці кавалі нажы...", і лічыў, што толькі самі беларусы здабудуць сабе волю ў барацьбе супраць усялякіх акупантаў. У сваіх публіцыстычных артыкулах імкнуўся асэнсаваць страты, нанесеныя беларускай зямлі як паланізатарскай, так і русіфікатарскай палітыкай блізкіх суседзяў, гаварыў пра адлучэнне чалавека ад сумленнай працы, руйнаванне лепшых народных традыцый, выкрываў уладу пустадомкаў, вынішчэнне цвету беларускай нацыі падчас масавых рэпрэсій, трагедыю працавітага сялянства, якое высялялася ў пусткі Сібіры і Поўначы падчас калектывізацыі (першы і, на жаль, нясконччаны раман "Перад бурай"" — *пра савецкія канцлагеры*). Свае артыкулы падпісваў псеўданімам: Мікола Дварэцкі або сапраўдным прозвішчам — У. Гуцька ці У. Д. Некаторыя яго думкі сугучныя сённяшняй сітуацыі: "Згуба свае роднае культуры, замена яе чужой азначае смерць народа. Ён ужо тады не ёсць раўнапраўным сябрам у агульнай сям'і народаў і робіцца нявольнікам чужое культуры. А за культурнай няволяй, як няўхільны вынік яе, наступае і няволя палітычная..."

Гэтыя свае думкі, ідэі У. Дудзіцкі панёс у выгнанне, якое пачалося да яго ў 1944 г. Яму так не хацелася пакідаць радзіму, столькі ён выношваў творчых задум, столькі бачыў па адраджэнні Бацькаўшчыны. Ён не баяўся "*пазіраць у вочы Беларусі*", *бо ні ў чым не быў* вінаваты перад сваім народам, але застацца — азначала загінуць у канцлагерах ГУЛАГа. Паэт добра памятаў 1933 г., калі, ідучы па этапах ад Мінскай турмы "Амерыканкі" да Новасібірска, Марыінска, Ташкента, яму балюча згадвалася:

**Не першы раз і не апошні, мусіць,**
**баліць душа, і рады не дасі.**
**Сніцёся мне вы, рэкі Беларусі,**
**і ты, журботная азёраў сінь...**

*("Не першы раз...")*

Адчуўшы тады гэту смяротную тугу па радзіме, ён разумеў, як цяжка будзе перанесці расстанне з ёй назаўсёды ("У новы край, далёкі і нязнаны, // з пакункам дум — тугой набраклых мар // нясу гадоў ліхіх пякельны дар — скамененую горам немач раны...). І ўжо прайшоўшы выгнанніцкімі шляхамі праз Германію, Аўстрыю, Іспанію, паэт пісаў у 1945 г.:

**Са мною ты на яву і ў сне,**
**мой родны край, блізкі і блізка...**
**Табой жыву. Малюся, як вясне.**
**Ты — песняў-дум найлепшыя калыска.**

*("О родны край").*

І вось ужо "хвалі ад берага — далей і далей...", і ў 1947 годзе паўстала перад беларускім паэтам Паўдзённая Амерыка — Венесуэла, дзе пачалося яго сямейнае жыццё. Ён ажаніўся з дзяўчынай, з якой пазнаёміўся ў лагерах перамешчаных асоб. (Цяпер Вера Уладзіміраўна жыве ў Мантэрэі). У іх нарадзілася 4 дзяцей — Ганна, Вольга, Марыя і Уладзімір. З дасланых мне Верай Уладзіміраўнай фотаздымкаў дзяцей паэта відаць, як сын незвычайна падобны знешне на бацьку. З 1947 па 1956 г. Дудзіцкія жылі ў Каракасе, ён працаваў у міністэрстве земляробства (выдатна валодаў іспанскай мовай). Атрымаўшы ў 1956 годзе запрашэнне працаваць на радыёстанцыі "Свабода", У. Дудзіцкі з сям'ёй пераязджае ў Мюнхен, дзе жылі на працягу 6 гадоў. З 1962 г. пачынаецца амерыканскі перыяд. Год ён працаваў у Нью-Йоркскім аддзяленні радыёстанцыі "Свабода" (разам з Я. Запруднікам), а з 1963 па 1967 г. яны з жонкай становяцца выкладчыкамі рускай мовы ў адной са школ (штат Індыяна), дзе на той час у Блумінтонгскім універсітэце працавалі беларускія паэты М. Сяднёў і У. Клішэвіч. Гэта быў адносна спакойны перыяд у жыцці сям'і Дудзіцкіх, пакуль яны не страцілі работу. Веры Уладзіміраўне ўдалося ўладкавацца выкладчыцай рускай мовы ў школе г. Сіракузы (штат Нью-Йорк), куды да яе ў 1968 прыехаў і муж, але доўга там не затрымаўся і ў пошуках працы зноў паехаў у Венесуэлу. У 1969 годзе след яго губляецца. Блізкія лічаць, што ён, не вытрымаўшы цяжкай настальгіі, на пачатку 70-х паляцеў у Савецкі Саюз, на радзіму, а тут спецслужбы не драмалі.

Спрабавала яго сляды на радзіме расшукваць і я. Ад Інстытута літаратуры АН Беларусі ў Камітэт Дзяржаўнай бяспекі быў накіраваны адпаведны ліст. Адказ быў такім: "В КГБ Республики Беларусь имеются сведения на Гутько (Дудицкого) Владимира Ермолаевича, 1910 года рождения, уроженца дер. Дудичи Пуховичского района Минской области, который Постановлением Особого Совещания при Коллегии ОГПУ от 10 августа 1933 года по обвинению в контрреволюционной деятельности был заключен в исправительно-трудовой лагерь сроком на три года.

Определением Судебной коллегии по уголовным делам Верховного суда БССР от 24 августа 1956 г. уголовное дело на Гутько В. Е. производством прекращено за недоказанностью состава преступления.

Сведений о возможной повторной судимости и дальнейшей судьбе Гутько В. Е в КГБ, информационных центрах МВД-УВД Республики Беларусь и МВД Российской Федерации не имеется.

5 июля 1933 г. И. О. Председателя Комитета А. Кулеш."

Прачытаўшы гэту афіцыйную паперу, я вырашыла пабываць у роднай вёсцы паэта, дзе сустрэлася з яго пляменніцай Вольгай Фёдараўнай, якая добра памятала свайго дзядзьку Уладзіміра, і настаўнікам Аляксандрам Іванавічам Кучынскім. Ён ведаў У. Дудзіцкага з дзяцінства, разам з ім вучыўся ў школе, затым у Мінскім педінстытуце. Яны былі нават разам рэпрэсіраваны ў 1933 г. Успамінаючы вайну, вяскоўцы згадвалі і свайго земляка. Але з 1944 года, як У. Дудзіцкі выехаў на эміграцыю, яны пра яго нічога не чулі, і ў 70-я гады ў вёсцы ён не паяўляўся. Знаёмыя і родныя хацелі ад мяне даведацца пра лёс паэта, я расказала, што ведала, але галоўнага пытання мы так і не высветлілі. Што з ім адбылося тады, калі ён прыляцеў (і ці прыляцеў?) у Савецкі Саюз, дзе абарвалася яго жыццё? Відаць, позна мы кінуліся расшукваць звесткі пра яго. Дзякаваць Богу, што да нас вярнулася творчая спадчына таленавітага беларускага паэта, які ўсё жыццё быў гнаны "клятым векам" і адчуваў "смяротнае зямлі чужой ярмо".

**Дарма, што на чужой зямлі жыву,**
**не валацуга я. Трывалы вязень злому,**
**як весні гром, на грані пераломму**
**рашчу спадзеўнасць спору наяву.**
**А ўспоруч з ёй заслону дзён прарву —**
**да рунных ніў. На зайздрасць часу злому.**
**Ля родных стрэх — ахвяраў крыгалому —**
**схілю сваю пакорна галаву.**
**Крыштальных слёз,**
**што лягуць на далонь,**
**нап'ецца сум, і сціснe боль тугі**
**мне горам пасярэбраныя скроні.**
**З далёкіх гораў, краю дарагі,**
**імкліва мчацца думак мурагі —**
**прысяга конніка Крывіцкае Пагоні...**

*("Дарма, што на чужой зямлі...")*

Прысягнуўшы Бацькаўшчыне з маленства,

**Адзін з самых выбітных французскіх пісьменнікаў XX стагоддзя Альбэр Камю вёў свае нататнікі ад студэнцкіх гадоў амаль да самае смерці (1935—1957), не збіраючыся іх друкаваць. Гэта і дзённікавыя запісы, і накіды, і думкі, што ўразілі яго ў прачытаным ці, прынамсі, звярнулі на сябе ўвагу, спісы ўпадабаных твораў, планы твораў уласных, нарэшце, асобныя цалкам закончаныя й самастойныя мініяцюры (передусім слоўныя малюнкі алжырскіх краявідаў).**

**Надрукаваны "Нататнікі" былі толькі пасля смерці лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў 60-я гады.**

**Дарэчы, сёлета ў французскім выдавецтве "Галімар" знайшоў чытача нясконччаны раман Камю "Першы чалавек", пра існаванне якога ведалі адно самыя блізкія нябожчыку людзі.**

**Для дадзенай публікацыі адабраны запісы самага рознага кшталту і часу напісання.**

**ПЕРАКЛАДЧЫК**

Пачуцці, якія мы перажываем, не ператвараюць нас — падказваюць нам думку аб ператварэнні. Так каханне не збаўляе нас ад эгаізму, а прымушае яго ўсвядоміць і нагадвае аб далёкай радзіме, дзе гэтаму эгаізму няма месца.

У жыцці ўсялякага чалавека мала вялікіх пачуццяў і багата дробных, Як робіш выбар — два жыцці й дзве літаратуры.

П. заяўляе, што можа прапанаваць "мініяцюру з выявою цяжарнай жанчыны ў рамцы з ключыцаў тарэадора".

Альбэр КАМЮ

# ВОЛЯ — ТАКСАМА АДЗІНОТА

## З НАТАТНІКАЎ (1935—1951)

Мысліць можна толькі вобразамі. Калі хочаш быць філосафам, пішы раманы.

У смерці гульня й гераізм набываюць свой сапраўдны сэнс.

Пачуцці й свет. Жаданні змешваюцца. Сціскаць у абдымках цела жанчыны — тое ж, што і ўбіраць у сябе дзіўную радасць, якая сыходзіць з неба да мора.

Вар'яцтва — цудоўная дэкарацыя ашаламляльнага пекнага ранку — сонца. Неба й шкілеты. Музыка. Палец на ваконным шкле.

Аповед: чалавек, які не хоча апраўдвацца. Ён выбірае думку, што склалася пра яго. І памірае, так і не адкрыўшы нікому праўды аб сабе. Слабае суцяшэнне. (Першая фармуліроўка тэмы "Чужаніцы").

Увечары свет над бухтаю ласкавы. Бываюць дні, калі свет хлусіць, і дні, калі ён кажа праўду. Сёння ўвечары ён кажа праўду — і як настойліва, тужліва й пекна.

Лагічнае правіла: адзінкавае мае значэнне універсальнага.

Алагічнае: трагічнае — супярэчлівае.

Практычнае: чалавек можа быць разумны у нейкай адной сферы й дурны ў іншых.

Аднойчы яна мне кажа: "З мужам усё зусім не так".

Сужэнцы. Муж спрабуе перад кім-небудзь блiснуць. Жонка адразу абсякае яго: "Ты ж..." — і рупіцца яго прынізіць, выставіць такою самай пасрэднасцю, як і яна сама.

Мантэрлан: "Са мною заўсёды штось здараецца".

На сцэнах Пізы: "Alberta fa l'amore con la mia sorella"[1].

... Усялякі раз, калі чалавек ("Я") саступае сваёй фанабэрыстасці, усялякі раз, калі ён жыве дзеля таго аднаго, каб "кім-небудзь здавацца", думае толькі пра гэта, ён здраджвае сабе. Жаданне "здавацца" — вялікае няшчасце, якое заўсёды прыніжала мяне перад ісцінай. Няма ніякай патрэбы адкрываць душу ўсім, адкрываць-мем яе адно тым, каго любім: у гэтым выпадку мы жадаем не здавацца, а толькі дарыць. Моцны чалавек — той, хто ўмее здавацца адно тады, як трэба. Ісці да канца — значыць умець захоўваць сваю тайну. Я пакутаваў праз адзіноту, але, каб захаваць сваю тайну, я пераадолеў пакуту, што несла мне самота...

Ён кажа: "У жыцці павінна быць каханне — адно вялікае каханне за ўсё жыццё: гэта апраўдвае беспадстаўныя прыступы адчаю, які нас апаноўвае".

У нас не хапае часу быць самімі сабою. Нам стае яго адно на тое, каб быць шчаслівымі.

Рэчы стамляльныя заўсёды стамляюць адно напачатку. Потым — смерць. "Такое жыццё не для мяне", але, жывучы гэтым жыццём, мы ў рэшце рэшт скараемся з ім.

Калігула: "Вы ніяк не зразумееце, што я чалавек просты..."

Але, прынамсі, яны змогуць займацца там каханнем...

Спакуса, што адольвае любы розум — цынізм.

Нікчэмнасць і веліч гэтага свету: у ім зусім няма ісцін, ёсць адна любоў.

Царства Абсурду, выратаванне ад якога — у любові.

(Момант крыху спрэчны: па-французску "l'amour" — і "любоў" і "каханне"; пісьменнік мог тут мець на ўвазе і "каханне" — **А. А.**)

Адзіная мажлівая свабода ёсць свабода ў дачыненні да смерці. Сапраўдны свабодны чалавек — той, хто, прымаючы саму смерць, прымае тым часам і яе вынікі, то ж бо пераацэнку ўсіх жыццёвых каштоўнасцяў. "Усё дазволена" Карамазава — адзіны паслядоўны выказ свабоды. Але трэба спасцігнуць сутнасць гэтае формулы.

Ёсць толькі адзін выпадак чыстага адчаю — адчай асуджанага на смерць... Можна спытацца ў безнадзейна закаханага, ці хоча ён, каб заўтра яго гільяцініравалі, і ён адкажа: "Не". Праз жах перад смерцю.

Кірылаў[2] мае рацыю. Забіць сябе — значыць давесці, што ты свабодны. А праблема свабоды вырашаецца проста. У людзей ёсць ілюзія, што яны свабодныя. У асуджаных на смерць гэтай ілюзіі няма. Уся праблема ў тым, наколькі гэтая ілюзія рэальная...

Жыццё, якое смерць не заспявае знянацку. Якое гатовае да яе. Якое яе ўлічыла.

Жанчына жыве з сваім мужам, ні аб чым не задумваючыся. Аднойчы ён выступае з прамоваю па радыё. Яна назірае за ім цераз зашклёныя дзверы. Слоў не чуваць. Ёй відаць адно жэсты. Яна адкрывае ў ім не толькі істоту з мяса й крыві, але й блазна, якім ён і ёсць на самай справе.

Яна кідае яго. "І гэтая марыянетка ўзлазіць на мяне кожную ноч!"

— Бачылі б вы клазеты, — кажа асенізатар, — якія яны адгрохалі ўнізе!.. Крыўдна аддаваць такія клазеты гэткім людзям!

Ле Карбюзье: "Бачыце, мастака адрозніваe тое, што ў ягоным жыцці бываюць хвіліны, калі ён адчувае сябе больш ніж чалавекам".

У Паланціёне, у Аркадзіі, ёсць ахвярнік: "Чыстым багам".

Мы заўсёды перабольшваем важнасць жыцця асобнага чалавека. Безліч людзей не ведаюць, што рабіць з жыццём — не так ужо амаральна пазбавіць іх яго. З другога боку, усё набывае новае значэнне...

Рэзервіст, якому зрабілі рэнтген страўніка:

"Яны ўлілі ў мяне трохлітровік вапны, сама меней. Раней гаўно ў мяне было чорнае, а цяпер белае. Вось яна, вайна".

Асуджаць падзею звонку немажліва й амаральна. Толькі ў лоне гэтага абсурднага бедства, мы захоўваем права пагарджаць ёю.

У Жары перад смерцю запыталіся, чаго ён хоча. "Зубачыстку". Яму яе далі, ён паднёс яе да рота й памёр задаволены. Вартыя жалю людзі, вы смеяцеся з гэтага й не робіце жахлівае высновы. Усяго толькі зубачыстка, звычаёвая зубачыстка — вось кошт гэтаму жыццю, што так вабіць нас"[3].

... Але чаму б сонцу не ўзысці аднойчы на захадзе?

Закончана першая частка Абсурду[4].

Чалавек сцірае з зямлі свой дом, спальвае свае палі й пасыпае іх соллю, каб яны не дасталіся іншым.

Гісторыя. Стары кідае з вакна другога паверха шматкі паперы, каб завабіць катоў. Потым плюе на іх. Як плявок трапляе ў ката — смяецца.

Вызваліцца ад гэтага рабства — імкненне да жанчын.

Вецер, адна з нямногіх чыстых рэчаў на свеце.

Даводзіцца плаціць і пэцкацца ў нізкай чалавечай пакуце. Брудны, гідкі й ліпкі свет болю.

Праблема мастацтва ёсць праблема перакладу. Дрэнныя пісьменнікі пішуць арыентуючыся на ўнутраны кантэкст, невядомы чытачу. А трэба пісаць усё роўна як удвух...

Для чалавека мудрага ў свеце няма таямніц. Дык якая яму патрэба блукаць у вечнасці?

Воля — таксама адзінота.

"Палітыка ніколі не ёсць рэччу паэзіі" (Гётэ).

З усім парваць. Раз няма пустэльні, няхай будзе чума ці маленькая станцыя, як у Талстога.

| | |
|---|---|
| | Талстой |
| Замежныя | Мэлвіл |
| арыенціры | Дэфо |
| | Сэрвантэс |

Імкненне некаторых мысляроў да правасуддзя й ягонай абсурднай дзейнасці. Жыд, Дастаеўскі, Бальзак, Кафка, Мальро, Мэлвіл ды іншыя. Шукаць тлумачэння.

Санеты Шэкспіра:

"Бачу цемру, што бачыць і сляпы..."

"І доўга мне, пазбаўленаму розуму,

Раем здавалася пекла, цемра — святлом..."

Тры персанажы ёсць дзейнымі асобамі "Чужаніцы": двое мужчын (адзін з іх — я) ды адна жанчына.

У Джойса хвалюе не сам твор, а той факт, што ён узяўся за яго стварэнне. Такім чынам, трэба адрозніваць захапленне ўчынкам мастака — якое не мае ніякага дачынення да мастацтва, — ад захаплення самім мастацкім творам.

Не йдзе да прастытуткі, якая прыстае да яго і ўзбуджае ў ім галенне (жаданне. — **А. А.**), бо ў яго пры сабе толькі тысячафранкавы білет, а папрасіць здачы яму няёмка.

Сексуальнае жыццё было дадзена чалавеку, каб збіць яго з шляху да ісціны. Гэта ягоны опіум. Яно ўсё заганяе ў сон. Без яго рэчы зноў ажываюць...

Апраўданне абсурднага свету можа быць адно эстэтычным.

Усялякае жыццё, аддадзенае пагоні за грашыма — гэта смерць...

Хто любіць ісціну, мусіць шукаць кахання ў шлюбе, то ж бо ў каханні без ілюзій.

Жыць страсцямі можа адно той, хто падпарадкаваў іх сабе. (Аднак ці ж страсці тады яны? — **А.А.**)

Хрысціянства. Вы былі б жорстка пакараныя, калі б мы прынялі вашы пастулаты. Бо тады мы не ведалі б жалю.

Трагедыя аб праблеме зла. Лепшы з людзей асуджаны на вечныя пакуты, калі служыць адно чалавеку.

Як навучыцца паміраць у пустэльні?..

Vae mihi cogitare ausus sum[5].

Вялікае пытанне жыцця — як жыць сярод людзей.

Тлумачэнне бальшавізму — у хрысціянстве. Захаваем раўнавагу, каб не стаць забойцамі.

У хрысціян гісторыя пачынаецца з Адкрыцця. У марксістаў яна ім канчаецца. Дзве рэлігіі.

Сябра С.: "Мы паміраем у сорак гадоў ад кулі, якую паслалі сабе ў сэрца ў дваццаць".

Мы занадта доўга жывём.

З Аляксандра Блока: "

Как тяжело ходить среди людей

И притворяться непогибшим".

Аддавацца можа адно той, хто валодае сабою. Бывае, што аддаюцца, каб пазбавіцца ўласнае нікчэмнасці. Даць можна толькі тое, што маеш. Стаць гаспадаром самому сабе — і толькі пасля гэтага здацца.

Памылкі радасныя, ісціна страшная.

Вагнэр, музыка рабоў.

Уся мая творчасць іранічная.

Быць паганцам для сябе, хрысціянінам для іншых — да гэтага інстынктыўна імкнецца кожны чалавек.

У чалавеку заўсёды ёсць нешта такое, што адпрэчвае любоў. Гэта тая частка ягонай істоты, якая хоча памерці. Менавіта ёй патрэбнае дараванне.

Дыялог паміж Леніным і рускім палітзняволеным.

Самазабойства А. Уражаны — бо, вядома, любіў яго, але яшчэ й таму, што раптам зразумеў: сам хацеў зрабіць тое ж.

Досыць усведамлення віны — досыць раскаяння.

Па-за каханнем ад жанчыны нудна. Яна нічога не разумее. Трэба жыць з адной з іх і маўчаць. Ці спаць з усімі й рабіць сваю справу. Самае важнае — не ў гэтым.

Брыдка, калі пісьменнік гаворыць, піша пра тое, чаго ён не перажыў. Аднак чакайце: забойца ж не самы прыдатны чалавек, каб распавядаць аб злачынстве. (Але ці ж не самы ён прыдатны чалавек, каб расказваць пра сваё злачынства? Нават упэўненасці ў гэтым няма.) Варта памятаць, якая адлегласць аддзяляе творчасць ад учынку. Сапраўдны мастак — на паўдарозе спаміж сваімі выдумкамі і ўчынкамі. Ён — чалавек, "здатны на". Ён мог бы быць тым, каго ён апісвае, перажыць тое, што ён апісвае. Адзін толькі ўчынак абмежаваў бы яго, і ён стаў бы тым, хто яго здзейсніў.

Стары жабрак кажа Элеаноры Кларк[6]: "Людзі мы не благія, а цёмныя".

Люблю ўсё ці не люблю нічога. Значыцца, не люблю нічога.

Але, у мяне ёсць радзіма: французская мова.

Мая магутная воля да забыцця.

*Пераклаў з французскай Алесь АСТАШОНАК*

---

*[1] Альберта займаецца каханнем з маёй сястрою (італ.).*

*[2] Персанаж рамана Дастаеўскага "Воржы" ("Бесы" — неалагізм А. Разанава).*

*[3] Жары Альфрэд (1873—1907) — французскі пісьменнік, аўтар знакамітай п'есы "Кароль Убю".*

*[4] Маецца на ўвазе "Міф пра Сізіфа".*

*[5] Гора мне, што насмеліўся разважаць (лац.).*

*[6] Амерыканская пісьменніца (1913—?).*


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6858.
Нумар падпісаны 26. 7.1995 г.
ЗАКАЗ 2757
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12